# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1972
Травень-
Чэрвень

Год XX
№ 3 (131)

ЗЬМЕСТ:

## ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1972 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры
У Вялікабрытаніі — £ 1-00.
У іншых краінах у суме раўнаважнай £ 1-00.

---

### ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

**У Задзіночаных Штатах:**

Mr. Antony Bielenis, 3006 Logan Blvd, Chicago, Ill. 60647, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str , New Brunsw ck, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

**У Канадзе:**

Mr. Pituška, 116 Grand Ave, Toronto, Ont. 560 Canada.

**У Нямеччыне:**

Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

---

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:
Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12, 8 HY., Gt.Britain.

УВАГА: Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N. 12. азначае North, а не нумар


# ON GOD'S HIGHWAY

**Year XX** **May—June** **№ 3 (131)**
**1972**

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE,
LONDON, N. 12, 8 HY ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

ГОД XX | ТРАВЕНЬ—ЧЭРВЕНЬ | № 3 (131)

# Слова сьвятара

## Казань а. Віктара на Сёмуху

«Кажу вам, многія прыйдуць з усходу і заходу і засядуць за стол... у Валадарстве Нябесным, а сыны Валадарства будуць укіненыя у цемру вонкавую: там будзе плач і скрыгат зубоў».

Ужо прышлі і занялі ваш край, Богам вам дадзены з прадвеку і валадарыць у ім, а вы бадзяецеся па сьвеце, кінутыя ў цемру вонкавую. І што паможа плач, ці скрыгат зубоў?

А таму, што ня было ў вас веры ў Бога і Яго запавет: любі брата свайго, як самога сябе, і змагайся за волю брату свайму і самому сабе, за край ваш абяцаны і дадзены.

Бо што, калі некаторыя з вас прызнаюць сябе беларусамі й гэта больш ад тых, што самі ня ведаюць хто яны. І больш ад тых, што служаць чужынцу сваім найміцтвам.

Але шмат, шмат за мала, каб асягнуць Уладарства Нябеснае, каб быць людзьмі вольнымі, людзьмі звацца ў сваім родным краі і грамадзтве.

Просім Айца Нябеснага, каб сталася воля Ягона на небе, так і на Зямлі. Але што робім, як змагаемся, каб гэтая воля сталася? Каб наш народ жыў па Божаму ў собскім краю? Што робіце, каб воля Божая сталася сярод вас?

Маеце свае гуртаваньні. Каму вы ласку робіце, калі прыйдзеце на зборку? калі дасьце складчыну колькі медзякоў? Вы, што павінны аддаць усё жыцьцё сваё, усё думаньне вашае, і маемасьць вашую, каб жыла Беларусь, ваш народ, вашая зямля, з прадвеку вашым прадзедам дадзеная Богам.

Маеце царкву, маеце ў ёй багаслужбу ў вашай роднай мове, да свайго магутнага Бога, а колькі вас тут? Дзеля якой ласкі, тыя што ня прышлі, каб разам тут у прысутнасьці самога Ісуса Хрыста быць і маліцца? Каму яны вінаватыя? Якое іх апраўданьне?

Нават вы, браты-каталікі, чаму вы сядзіце ўдома? Аглядаецеся за тымі, што прыходзяць з захаду-ўсходу?

Чаму вам ня прыйсьці й маліцца таму-ж самому Ісусу Хрысту ў вашай-же мове, ды з вашымі братамі й суродзічамі?

На дзень апостала Пятра, у евангельлі, Ісус пытаецца вучняў сваіх: «за каго людзі лічаць мяне? За каго вы мяне маеце»? І адзін з іх адказвае: «Ты Хрыстос, Сын Бога жывога».

А было іх 12. Чаму адзін толькі сказаў адразу, не ацягаючыся, не баючыся, што скажуць іншыя? Чаму вы, як тыя 11 баіцеся сказаць тое, ў што верыце? Ня робіце тое, што ведаеце патрэбнае вам і дзецям вашым на добрае жыцьцё тут, ды Ўваладарства Нябеснае па сьмерці?

Вы ведаеце, што патрэбныя сяньня вам, грамадзе вашай і народу вашаму — сьвятары, як патрэбныя былі ў нядаўнім часе змагары-жаўнеры.

Вы ведаеце, што вялікі Сымон-Пятро, на якім Хрыстос будаваў Царкву Сваю, быў толькі рыбак, які нават тае рыбы ня ўмеў лавіць, бо вяртаўся з лову з пустым чоўнам.

Вашае нязнаньне багаведы ня ёсьць апраўданьнем, але апраўдываньнем свае баязьні, няверы ў свае сілы, вы-ж ня гультаі.

А баіцеся вы чаго? Тога што скажа няпрыяцель, ці можа недапечка сярод вас.

Не хапае вам адвагі служыць Богу й народу, працаваць для сябе й свае будучыні. Дык чаго нападаеце на таго, хто хоча служыць? На тога хто маласільны, але й тую крыху сілы хоча аддаць народу й Богу.

Сотнік верыў у Хрыста, і хлапец яго выздаравеў у той час. Пятро верыў у свайго Галілейскага Суседа з Назарэту, суродзіча. Не глядзеў, што Ісус п'е віно. Не падазраваў Яго ў распусьце, калі Хрыстос гаварыў сам-насам ля калодзежа з жанчынаю, якая мела 5 мужоў, але ніводнага шлюбнага.

Нам трэба верыць у брата свайго беларуса. Нам трэба памагчы свайму брату беларусу. Нам трэба маліцца, каб Госпад Бог паслаў сілу й веду кожнаму адважнаму змагару за дабро для народу. Хай-жа станецца!

*а. Т. П.*

# Сабornасьць хрысьціянскае містэрыі

Пасхальная Містэрыя — саборная — ў тым значэньні, у якім Царква называецца «Саборнай», як пераклалі грэцкае слова «каталікін» на славянскую мову Сьв. Кірыл і Мяфод. Ворагі хрысьціянства, рацыяналісты, стараліся падкапацца пад Царкву, даказваючы, што рэлігія ўзяла і назву і паняцьце Пасхальнае Містэрыі з паганства. Аднак параўнаўчая навука аб рэлігіях паказала агульную патрэбу ўсіх людзей, якія шукалі духовага адраджэньня і ўскрашэньня; але толькі хрысьціянства патрапіла заспакоіць гэтыя патрэбы чалавецтва, калі паверыла ў Хрыстовае Ускрашэньне.

Трэба прыпомніць, што ў часах, калі аб'явілася хрысьціянства, то паганскія рэлігіі ўжо мелі свае містэрыі і яны мелі вонкавае падабенства да Містэрыі Хрысьціянскай. Аднак гэтае падабенства мае свае граніцы і варожая навука не змагла пахіснуць нашае веры.

Зьвернем найперш увагу на гіпатэзу, што Хрысьціянская Містэрыя-Пасхальная выводзіцца з паганскіх містэрыяў. Аднак гэтая гіпатэза ня можа растлумачыць вельмі важных фактаў, што аж дзіва бярэ, як паважныя гісторыкі да гэтага часу не зьвярталі на іх увагі!

Першая рэч. Чаму жыды, якія рабілі гэтулькі закідаў сьв. Паўлу апосталу, не зьвярнулі ўвагі на «паганскі характар» ягонай навукі аб Пасхальнай Містэрыі, значыць, аб Хрыстовым Ускрашэньні. І сапраўды, каб Павал узяў гэтую навуку ад паганства, дык жыды паднялі-б вялікія пратэсты і гвалт. Дый сам Павал аніяк ня мог нічога такога браць ад паганаў, бо ён быў узгадаваны ў прававерных жыдоўскіх традыцыях. І супраць паганства ён рашуча выступаў падчас усяго свайго жыцьця. Дый прытым Павал найбольш грунтоўна распрацаваў хрысьціянскую Містэрыю, як найпаважнейшы і першы тэалёг Хрыстовае навукі. Дык аніяк ня мог ён учыніць гэтага і нясьведама, бо ўсе элемэнты гэтае дактрыны Павал паставіў у цэнтр свайго апостальства. І ў канцы, найбольш праконваючы факт, што паганскія містэрыі ў гэным часе былі жыдам вельмі мала ведамыя.

Няменш акажацца немагчымым, каб хрысьціянства магло штосьці ўзяць для сябе з паганскіх містэрыяў, калі параўнаем іх з хрысьціянскай містэрыяй. Яшчэ ў клясычным пэрыядзе элеўзыйскія містэрыі ўжо кіравалі чалавечую думку да «ускросшага жыцьця» ў прыродзе. Багіня Корэ, трапіўшы ў пекла, скуль ніхто ня выходзіць, неяк штогод вырывалася адтуль на некалькі месяцаў, каб на зямлі прычыніць вясну й лета, а Трыпталемос, якому Дэмэтра давала колас пшаніцы, сеючы зярняты, адтвараў жыцьцё ад сьмерці і вось вясна прабуджала ўсю прыроду дый зярняты ўсходзілі!

Мы ня ведаем, у якой меры людзі, якія прыймалі ўдзел у элеўзыйскіх містэрыях, лучыліся з гэным жыцьцём і чым яно для іх было? Аднак з кнігі Плятона «Фэдон» мы бачым, што жыцьцё неяк адчыняла дзьверы надзеі на будучую несьмяротнасьць; але ўсё гэта было «скокам у пацёмку». Усходнія містэрыі, якія патрапілі ў пачатку нашае эры зацікавіць забобонны і скептычны Захад, — містэрыі Адоніса, Аттіса, Мітры ці Ізыды-выражаюць ідэю ўміраючага бога, які пасьля адраджаецца і з гэтым лучыліся тыя, што бралі ўдзел у гэтых містэрыях. Дый спраўляўся сымбалічны, рытуальны банкет, давалася прырачэньне новага жыцьця — аж ствараліся асаблівыя адносіны між багамі дый іхнымі паклоньнікамі. Дык містэрыі былі спробай знайсьці ў гэных абрадах новы зьмест. Чалавеку мала было што ён мае гонар жыць у дружбе з багамі, але ён задумваўся паважна над сваім лёсам. Чалавек шукаў такога парадку, каб было магчыма перамяніць самога сябе, але ён ня ведаў, чаго яму не хапае. Дый таксама ня мог спадзявацца новага жыцьця ад абыякавых багоў, што не зважалі на людзкую долю. Дык людзі шукалі такіх багоў, якія перажылі нешта падобнае з жыцьцём людзкім . . . І вось Аттіс і Мітра былі багамі, што цярпелі самі, а нават і памярлі, але пасьля сьмерці перамаглі. І мы тут самі ня бачым, як стараючыся зразумець паганскую містэрыю, мы пераносім яе на наш хрысьціянскі грунт — тады, калі ў гістарычных дакумантах няма нічога, што давала-б нам рабіць такое параўнаньне да нашай Пасхальнай Містэрыі — Хрыстовага Ускрашэньня.

Тымчасам дакуманты гістарычныя паказваюць зусім нешта іншае. Калі ў паганскіх містэрыях бог цярпіць, не цярпіць ён дабравольна, як Хрыстос, але супраць сваей волі! І перамагае незалежна ад свайго цярпеньня. А найважней, што паганская перамога ў містэрыі ня ёсьць поўная, але толькі падобная да вясны — часовая, і восень ізноў прыносіць сьмерць — зіму! Значыць, удзел у паганскай містэрыі не абнаўляў чалавека, як у хрысьціянстве. Гэта ня было сапраўднае Ускрашэньне, а толькі часовае абнаўленьне, якое пазваляла падняцца на адну ступеньку, каб зараз ізноў зваліцца ў нетру.

Такое «новае жыцьцё» нічым ня розьнілася ад старога: чалавек паддаваўся пад уплыў сілы, якая бараніла яго ад сілы варожай, але не магла перамяніць самога чалавека! І ў гэтым містыцызьме ня было ніякае этыкі і адраджэньня: прырода аставалася старой.

Аднак неспадзяваны росквіт гэтых паганскіх культаў, калі само паганства ляжала ў руіне, азначае народзіны новай ідэі ў грэшным чалавецтве. Значыць, паганскія культы былі прадчуваньнем, хоць і няясным, таго, што Бог можа даць людзям адказ і здаволіць іхныя пажаданьні ў ступені поўнай і найвышэйшай! І ў сваіх містэрыях людзі, як малыя дзеці, шукалі, ня ведаючы таго, што ім было патрэбна; але дабіваліся надарэмна, бо ня ведалі належнага шляху. Як і молячыся да фальшывых багоў, яны ня ведаючы, аддавалі пашану сапраўднаму Богу.

І вось прыйшоў дзень, калі цені і вобразы разьвеяліся, бо зьявілася рэчаіснасьць. Толькі хрысьціянства змагло заспакоіць усе патрэбы чалавека, навучаючы, як падняць пажаданьні вышэй, чым усё тое, што чалавек мог-бы задумаць. І людзі ўбачылі, што Бог сапраўды можа даць жыцьцё, — лепшае, поўнае і сваё — Божае! І таму сьв. Павал, хоць сам ня меў паняцьця аб тэрміналёгіі паганскіх містэрыяў, аднак, як кажа Орыгенэс, ён самаісна абвяшчае Хрысьціянскую Містэрыю і гэта не зашкодзіла Ізраілю, што абагаціўся егіпецкімі паняцьцямі. Так Божы адказ людзям ня нішчыў абразоў, якія стварыў сабе чалавек у сваім імкненьні да неба. Але Бог толькі ўзвысіў людзтва аж пад неба, як хвалю, што налятае на скалы.

На сьценах катакомбаў добры пастыр заняў месца бога Мэркурага, што нёс халадзільнік. А хрысьціянскія прапаведнікі запрапанавалі старому сьвету такую навуку, якая і ня сьнілася чалавецтву! Тады Царква ўзяла белыя вопраткі, сьвечкі, ваду, пахнідлы і кадзілы, соль, хлебы і віно, а таксама заклінаньні і песьні, якімі бедная паганская душа пацяшала сябе ў сваім горы і няшчасьці. І Царква сказала людзям: «Вось усё гэта — маё. Ты, душа людзкая, шукала Фэнікса — птушкі шчасьця, якая згарэўшы ў ахвяры, адраджалася ў попеле, але ты не знайшла гэтай птушкі; аднак я табе даю гэтую жывую птушку, што не памрэ ніколі! Я цябе абмыю ў крыві Ягняці і ўзлажу табе на галаву нявянучы вянок славы вечнай».

Гэтак вось паўставала ўсё багацьце хрысьціянскіх цырымоніяў, якія вырасьлі з Хрыстовае пшаніцы, пасеянай на паганскай ральлі. Хрысьціянская Містэрыя стала сусьветнай і Саборнай, хоць прыняла нямала вонкавых паганскіх абрадаў; але надала ім сэнс і значэньне, якога яны дасюль ня мелі, каб яны маглі даць і выразіць Божы адказ на чалавечыя патрэбы, надзеі і малітвы. Такі адказ мог даць толькі Той, Хто лепш ад чалавека ведае ўсе людзкія патрэбы І перш, чым чалавек зьвернецца з просьбай да Яго!

*а. Я. Р.*

# Сьвяты Павал Апостал

> «Мне жыць — гэта Хрыстос...»
> «На мне ляжыць абавязак, і бяда мне, калі я Эвангельля не абвяшчаю...»

Так гаворыць аб сабе сьвяты Павал, апостал Хрыстовы, а ён і вялікі сьвяты.

Разгледзім-жа кароценька адно і другое.

Нялёгка было гаварыць Паўлу, што яму жыць — гэта Хрыстос! Зусім-бо інакш цякло ягонае мінулае жыцьцё. Змаладосьці Павал (называўся Сауль, Шавал) належыў да жыдоўскае партыі-сэкты фарызэяў, каторыя не згаджаліся з навукай Хрыстовай і адкінулі яе, а самога Хрыста-Мэсыяша засудзілі на сьмерць. Яны голасна крычалі Пілату: «Кроў яго на нас і на дзяцей нашых!»

Ня ведаем, з якіх прычынаў Паўлу ня прышлося спаткацца з Ісусам падчас ягонага навучаньня, але чуць аб Ім бязсумніву мусіў шмат, асабліва пасьля Ўшэсьця, калі апосталы сталі пашыраць Эвангельле па ўсей Палестыне і за межамі яе. Належучы да партыі варожай Хрысту, Павал заўзята выступіў насупраць новых адросткаў хрысьціянскай веры. І ў пэўнай меры гэта даволі зразумела. У яго вачах Хрыстос зьяўляўся такім, якім яго ўяўлялі фарызэі — ашуканцам, што захацеў падступна заўладаць мэсыянскай ідэяй, якая была найбольш цэннай жыдом, як-бы душа народу. «Да чаго-ж гэта давядзе, як не да загубы народу?» — думаў Шавал. Не, не такого Мэсыяша яны чакалі! Паводле іхняга пляну Мэсыяш меўся адваяваць страчаную волю, вярнуць славу Салямона і перавысіць яе... А Хрыстос кіраваў інакш... Ці-ж гэтакай развязкі меўся дачакаць Стары Закон? а вера і надзея дзядоў і прадзедоў? а прароцтвы?..

І вось закіпела кроў у жылах патрыёта Саўля (як яго тады называлі): ён хапае ў рукі меч і нясе помсту крываваю на хрысьціянаў

за тое, што нарушылі жыдоўскія скарбы патрыярхаў і прарокаў. А прытым ягоны запальчывы характар вельмі прыдаўся на такую дзейнасьць супроць апосталаў і вучняў хрыстовых. Да таго Шавал меў нязломную сілу волі, хуткую орыентацыю, быў здольным прамоўцам, пісьменьнікам і ня быў зьвязаны сям'ёю.

Дык хто-ж мог-бы такога энэргічнага, ідэйнага дзеяча пераканаць, што блудзіць і зьвярнуць ягоную душу да Хрыста, якога ён перасьледаваў?

Адно толькі ласка Божая! Але Шаўлу мала было-б ціхага натхненьня, добрага і лагоднага слова, ці прыкладу. Не, да гэтакіх душ Дух Сьвяты прамаўляе такім моцным словам і акцэнтам, што, як гром з яснага неба, зваліваe чалавека на зямлю!

Калі Шавал поўны злосьці сьпяшаўся з таварышамі і памоцнікамі ў Дамашак, каб там «хапаць, зьвязываць і цягнуць на суд хрысьціянаў», надзвычайная яснасьць зьбіла яго з ног, а Сам Ісус Хрыстос прамовіў да яго: — Шавал, Шавал, чаму ты мяне прасьледуеш? — А ён спытаўся: — А хто ты ёсьць, Госпадзі? — І адказаў Гасподзь: — Я ёсьць Ісус, каторага ты прасьледуеш. — Тады, дрыжачы са страху, Шавал спытаўся ізноў: — Госпадзі, што Ты хочаш, каб я рабіў? — А Ісус яму адказаў: — Устань і ідзі ў горад, а там табе скажуць, што ты маеш рабіць.

У той час зьявіўся Ісус аднаму свайму вучню ў Дамашку (Янаніяшу), даючы загад адведаць Шаўла. Зьдзіўлены вучань адказывае: — Госпадзі, я чуў, што гэты чалавек нарабіў шмат злога верным у Ерусаліме і што мае ўладу ад старшых духоўных брацьусіх, хто называе тваё Імя. — А яму Ісус: — Ідзі, бо ён будзе для мяне выбраным начыньнем і разьнясе маё Імя між народамі . . .

Якая вялікая перамена і як раптоўна яна адбылася ў душы Шаўла! Бо няма ў Бога нічога немагчымага. Адна толькі рэч, перад каторай Боская моц ня мае сілы — гэта злая воля чалавека, значыць, такая воля, што сьведама трымаецца фальшывай дарогі і сумысна закрывае вочы, каб ня бачыць сьвятла праўды. А Шавал — гэта чалавек добрай волі. Ён толькі што ўбачыў праўду ў прамяньнях яснага неба і адразу хутка орыентуецца ў новай сытуацыі і шчыра пытае: — Госпадзі, што Ты хочаш, каб я рабіў?

У той зьяве ў дарозе Шавал асьлеп. Але, навернены на належную дарогу, навучаны і прыгатаваны малітвай, упакораны, прыняў хрост і ўбачыў сьвятло сонца і сьвятло праўды. У аб'яўленьні Хрыстовым Шавал пазнаў, што ня толькі павінен прыняць веру ў Хрыста, але і стаць дзейным вучнем Хрыстовым, апосталам. І вось ён рашуча пашоў за гэтым Божым голасам, з усёй сілай сваей ачышчанай волі і запаленых пачуцьцяў. І адразу, як паслушны жаўнер, стаў пад каманду новага Кіраўніка, Хрыста.

Аднак Шаўлу трэба было пасьля навароту глыбей удумацца ў новую навуку, трэба было ўзгодніць Стары Закон з Новым, дапасавацца самому і зразумець Дух Хрыстовы, каб магчы абвяшчаць Хрыста жыдом і паганам, вольным і нявольнікам, цёмным народным гушчам і вучоным філязофам, палітыкам і людзям вялікім гэтага сьвету. І трэба было пакутаваць за свае грахі і аплакаць засьляпеньне, зь якім прычыніў гэтулькі крыўды хрысьціянам. З тою мэтай Шавал адыходзіць у Арабскую пустыню і там здалёку ад шуму і натоўпу праводзіць тры гады ў пакуце, ў малітве і разважаньнях аб праўдах Адкупленьня.

Пасьля гэтага пачалася шырокая дзейнасьць новага Апостала: Палестына, Малая Азія, Мацэдонія, Грэцыя, Рым і далёкая Гішпанія чулі яго голас.

Пазнаўшы праўду, узлюбіўшы яе ўсей душой, Шавал да сьмерці толькі гэтым жыве, гэтым аддыхае, іншае ўсё, апроч Хрыста, не мае для яго ніякай вартасьці. Усё ягонае жыцьцё зводзіцца да аднаго пункту: — Мне жыць — гэта Хрыстос! — А ўсё вонкавае цэніць вось як: — Мне сьвет укрыжаваны, а я сьвету. — Хрыстос займае ўсе ягоныя думкі, пранікае ўсе прыродныя здольнасьці душы і цела. Вось што Шавал гаворыць: — А хто ў Хрысьце, той — новае стварэньне. Як бяз душы, цела ёсьць мёртвае, так бяз Хрыста, чалавечае сэрца стаецца марным, чахне і гіне для Бога і вечнасьці. Дзеля таго і кажа апостал: — Бяда мне, калі Эвангельля не абвяшчаю. — Бяда і няшчасьце, бо тады загубіўбы ўвесь сэнс свайго жыцьця на зямлі і ў вечнасьці.

«Хрыстос — для мяне і для другіх!» Гэтакім духам ажыўлены Шавал узносіць свае магутныя крыльлі, каб узьнесьціся над сьветам, нясучы кажнаму зерне новай навукі, засяваючы ўсюды Божае жыцьцё, адно праўдзівае і шчасьлівае чалавеку. Падыймаючы сьцяг Эвангельля, не баіцца ніякіх перашкодаў, будучы сьведамым сваей сілы ў Богу: — Усё магу ў тым, каторы мяне ўзмацняе!

Пасьля навароту Шаўла Хрыстос сказаў аб ім свайму вучню: — Я яму пакажу, колькі мусіць выцярпець за маё Імя. — І гэтыя словы Хрыста споўніліся над меру. Вось што гаворыць апостал Павал аб сваім жыцьці ў Хрысьце: — Церпім голад і смагу, мы нагія і б'юць нас і бадзяемся . . . шмат у працы, бязьмерна ў ранах і вастрогах і многа разоў пры сьмерці. Ад жыдоў пяць разоў дастаў па сорак без аднаго ўдараў, тры разы білі мяне кіямі, аднойчы каменавалі, тры разы разьбі-

ваўся карабель, ноч і дзень прабыў на глыбіні. Многа быў у падарожах, у небясьпеках на рэках, ад разбойнікаў, ад землякоў, паганаў, у месьце, між фальшывымі братамі, ў працы і ў зьнемажэньні, часта ня сплючы, ў пастох, у голадзе і холадзе і ў нагаце.

Вось абраз балючых перажываньняў апостала.

— Але ўсё гэта — кажа — перамагаем праз узлюбіўшага нас. Бо я пэўны, што ні сьмерць, ні жыцьцё . . . ні якое стварэньне ня можа адлучыць нас ад любові Божай, што ў Хрысьце Ісусе, Госпадзе нашым.

Пасьля навароту праконсула Рымскага Сэргія Паўла, Шавал перамяніў сваё імя на Павал і так падпісывае свае лісты, якіх зьмешчана ў Новым Запавеце 14. Павал адбыў тры вялікія падарожжы, апавядаючы Эвангельле найбольш паганам у грэцкай мове, якая тады была найбольш ведамай. Затое носіць слаўны тытул Апостала Народаў.

Падчас прасьледу хрысьціян за часоў Нэрана быў у Рыме замучаны аднаго дня са сьвятым Пятром. Паўлу адсечаная галава за г. Рымам і там пахаваны. Была пабудавана базыліка на гробе Паўла, вельмі старадаўная і цэнная. Але тая ў пачатку XIX-га стагодзьдзя згарэла. Зара пачалі будаваць новую, на якую ахвяры слалі з усяго сьвету, нават некаталікі. Пасьля сьвятога Пятра ўсе пілігрымы стараюцца наведаць гроб апостала Паўла.

У апошнюю хвіліну жыцьця, аддаючы сваю галаву пад меч, мог сказаць, паводле таго як жыў: — Змагаўся я добрым змаганьнем, бег закончыў, веру захаваў. Наастатак гатовіцца мне вянок праўды, які дасьць мне Гасподзь, Судзьдзя справядлівы.

Так закончыў жыцьцё Вялікі Працаўнік Хрыстовы, Вялікі Апостал і Мучанік. Разам з Пятром лічыцца Закладчыкам Рымскай Царквы і Рым справядліва ім славіцца.

А нам пакінуў прыклад, як пасьвяціцца для збаўленьня сваей душы і як працаваць для збаўленьня нашых бліжніх.

---

*Д-ка*

# Школьнікі

Было гэта зусім нядаўна. Сяджу ў лёнданскай падземцы (ундэргра́ўнд), чытаю газэту. Тым самым занятыя й мае спадарожнікі. Падчас праезду ў падземцы людзі тут не гавораць, а то чытаюць, а то ненарокам абсэрвуюць іншых.

Раптам пачулі мы на станцыі нязвычайныя крыкі, гармідар, сьпевы — ажно чарада школьнікаў ад 9 да 17 гадоў навалілася на цягнік!

Раскудлачаныя хлапцы й дзяўчаты памяшаныя, а зрэшты й не разьбярэш у гэтым натоўпе, хто хлапец ці дзяўчына, бо ўсе ў кудлах і ў портках. — Папіхаюцца, займаюць месцы, бясцырымонна наступаючы старшым на ногі, дый балаганяць ганебна, хоць затыкай вушы!

Паважныя грамадзяне проста вачам сваім ня вераць — такая дзіч наляцела, што й аж страшна стала — ня толькі дзіўна ці незразумела. На шчасьце крыклівая гурма як напала, так раптам і зьбегла на наступнай станцыі: разьбягаюцца па двое-трое па пэронах з тым самым гоманам і піскам — ажно старшыя кідаюцца ў бакі, даючы прастор ашалелай моладзі . . .

У лёнданскіх школах — больш паўмільёну школьнікаў. А ў гэты дзень тысячы іх разьбягаюцца па вуліцах, пляцох, па станцыях, бо гэта яны пратэстуюць супраць старых парадкаў, дамагаюцца волі ад паслушэнства і школьнае дысцыпліны.

— Што гэта значыць? — пытаюся я й пытаюцца іншыя ў мяне. Але хутка знаходзім выясьненьне: школьнікі дамагаюцца: «далоў уніформы, роўнасьць вучня з настаўнікам у кіравецтве і ў дырэкцыі школы, адмяняюцца кары» і г. д.

Пэўна не абыйдзецца бунт бяз арыштаў, судоў і караў за парушэньне парадку, за зьнявагу паліцыі. Усё, што мы тут сказалі, апублікавала посьле радыё, паказала тэлевізыя й апісалі газэты.

А мы ставім трывожнае пытаньне, ці сапраўды моладзь сярэдніх школаў такая ўжо дасьпелая й разумная, што самацёкам зарганізавалася й выбегла на вуліцы, пачынаючы рэвалюцыю? А мо' стаіць нехта за плячамі школьнікаў і пацягвае за шнурок або папіхае баламутаў і гультаёў да разрухі? Так робіць мэнажэр у цырку, забаўляючы публіку ў маніпуляцыі з марыянэткамі. І ці ня ёсьць гэта неспадзяваны эгзамен для самога дарослага грамадзтва — для бацькоў, для школы, для дзяржавы, Царквы і для ўсяго чалавецтва?.. І хто тут найбольш адказны дый вінаваты?

Калі пасьля рэвалюцыі ў Расеі намножылася бяспрытульных (беспрызорных), дык са-

вецкая ўлада перш старалася іх судзіць на доўгія тэрміны, але аніяк не маглі з імі дайсьці да ладу: яны абсалютна адмаўляліся працаваць, нават для сябе ў камэрах; не памагалі ні карцэры, ні пабоі! Дык у роспачы савецкі ўрад пачаў іх расстрэліваць масамі або тапіць цэлымі грамадамі ў глыбокіх марскіх нетрах. А ў Манджурыі, як прышла камуна, маладых бандытаў вешалі за ногі — аж пайшоў жудасны страх у грамадзтве і бандыцтва адразу занікла!

*

Аднак у вольным сьвеце да такіх мераў «справядлівасьці» ня дойдзе. А нават ніякая дыктатура, апрача фашыстоўскае і савецкае, да такой адплаты за злачынства ня кінецца. Дык што-ж рабіць? І найперш, хто вінаваты? Дык трэба шчыра прызнацца, што вінаватае выхаваньне дзяцей і моладзі. І на першым месцы стаяць бацькі, бо яны найбліжэй да сваіх дзяцей. Бо і ясна, што ня досыць нарадзіць дзяцей дый карміць, адзяваць, аграваць, вучыць у школах, а на выхаваньне заплюшчыць вочы дый пускаць дзяцей самапасам.

Калі дзіця пачынае гаварыць, бацькам падабаецца ягоныя шапялявасьць, гаркавыя «р» і розныя пахібы; нарэшце хаджэне на чатырох і спробы на дзьвюх ножках. Усё гэта ўзбуджае несамавітую радасьць, асабліва маткі, якая ня можа нахваліцца сваім дзіцяткам, тыбольш першым!

Аднак найважнейшая справа — ад самага пачатку вучыць дзіця знаку сьв. крыжа і пачатку малітваў: гэтым аказваецца пашана і залежнасьць чалавека ад Бога, ад Якога — дачаснае і вечнае жыцьцё.

Далей дзіця мае прысвойваць законы ветлівасьці, удзячнасьці дый паслухмянасьці: прызнавацца да віны і перапрашаць у правінах. Ведама, баронім дзіця ад агню і ад усялякае шкоды і небясьпекі: каб малы не браў без дазволу, каб не псаваў і ня нішчыў, каб ня траціў дарэмна часу, і ад усялякай распусты.

Ужо сьв. Аўгустын асьцерагаў, кажучы: «Такі маленькі чалавечак, а такі вялікі грэшнік!».

А бывае, што бацькі заплюшчваюць вочы сабе і іншым, каб не сварыцца на дзіця, бо «яно — нявіннае!». А трэба ведаць, што Царква рыхтуе да першае споведзі дзяцей ад 7-мі гадоў. Але некаторыя лёгкамысна адкладаюць дзіцячую споведзь да 12 і больш гадоў, калі яно можа ўцягнуцца ў грахі дрэнных прывычак і нораваў, з якімі будзе пасьля абражаць Бога і нахіляцца да вечнае згубы душы сваей і другіх бліжніх.

А ці-ж ня бывае, што бацькі лішне ўганяюцца за грашмі, пакідаючы дзяцей бяз ніякае апекі? Вяртаюцца з работы змучаныя і знэрваваныя, дык дзеці вырываюцца з хаты, каб мець ад бацькоў «спакой». Так трапляюць у сям'ю благія звычкі, навыкі — курэньне, а й наркотыкі, п'янства дый брыдкія гутаркі і ўсялякая брыдота.

А бадай найбольш псуюць дзяцей розныя некантраляваныя «коміксы» і нягодныя сцэны ў тэлевізіі. Дый таксама благі ўплыў маюць на дзяцей перапоўненыя школы: праводзіцца нахабнае ўсьведамленьне дзяцей пра жыцьцё сэксуальнае. Даходзяць злоўжыцьці да таго, што 15-гадовыя дзяўчаты становяцца маткамі ў найгоршай распусьце!

Да ўсяго благога далучаецца адчужэньне дзяцей ад роднага дому, дый ад народу праз навуку вылучна ў чужой мове. Фальшывае разуменьне у бацькоў, каб гаварыць з дзецьмі ў дзяржаўнай мове (ангельскай, францускай, нямецкай і інш.). Ад калыскі тата й мама гавораць да дзіцяці пачужому і так дзіця сапраўды становіцца з малога для сваіх бацькоў чужым. А пасьля пагарджае і роднай мовай і роднымі бацькамі. Нават настаўнікі гневаюцца, што бацькі вучылі дзяцей, самі гаворачы дрэнна, і школа мусіць перавучваць. Так творыцца фальшывае выхаваньне і ўплыў бацькоў на дзяцей зьмяншаецца: няма сардэчнасьці і зразуменьня між старшымі і малодшымі — аж і адкоцяцца ад хаты на заўсёды! Тады й кантроль і выхаваньне ня можа праводзіцца нармальна. Дык ня трэба баяцца, што дзіця адстане ў навуцы, калі будзе гаварыць дома ў сваей мове, бо школа сама дасьць раду і яшчэ лепш без неразумнай бацькаўскай помачы. А пры такой тактыцы дзіця вырастае і не беларусам і часта няверучым і ня молячымся на ўсё далейшае жыцьцё . . .

*

О, дарагія Бацькі! Мы не маем права наракаць на сучасную моладзь, калі не даём ёй хрысьціянскага і народнага выхаваньня дый калі бацькі ня выконваюць сваіх абавязкаў у сям'і.

Выхаваньне моладзі — гэта вельмі важны і адказны абавязак бацькоў і ўсіх тых, хто бацькоў заступае — у школе і ў Царкве, а таксама і ў працы. Да таго трэба падыходзіць сумленна, з Богам у сэрцы. Інакш моладзь сапраўды дзічэе — аж становіцца варожай у адносінах да старшых, да родных, а нават і да бацькі й маткі! Інакш дачакаемся рэвалюцыі самай дзікой, калі малыя пагарджаюць старшымі, уладай сьвецкай і духоўнай. А што з такіх баламутаў вырасьце? Як бачым, расьце толькі грубіянства й хамства, гультайства і розныя злачынствы, што ўжо не хапае месца і ў так ужо перапоўненых турмах! . .

# „Апосталам роўны“ Мікалай, Архіяпіскап Японіі

Сьвяты Мікалай, сын беларускае зямлі, радзіўся на Смаленшчыне. Памёр 3 лютага 1912 г., маючы 76 гадоў. Да паступленьня у манастыр называўся Іван Дмітравіч Касаткін. Маючы 23 гады кончыў у Пецярбузе Духоўную Акадэмію. 8 ліпня 1860, ужо як іераманах, Мікалай быў назначаны ў Японію, як першы місіянэр у гор. Гакодатэ, на паўночным востраве Гоккайдо, дзе было адчыненае расейскае консульства. Выехаўшы адразу ў ліпні 1860 г., малады сьвятар адбыў падарожу ад Масквы аж да Ціхага акіяну на конях — праз Поволжжа, Урал і праз Сібір — да 10-ці тысяч кілямэтраў! Пераплыўшы Японскае мора, Мікалай прыбыў да Гакодатэ 2 чэрвеня 1861 г.

Тут, у далёкай няведамай краіне, яму трэба было ізноў стаць студэнтам, каб навучыцца японскае мовы, аднае з найтруднейшых на сьвеце. На гэта Мікалай не пашкадаваў часу — 8 гадоў, выконваючы адначасна душпастырскія абавязкі ў сьвятыні пры рас. консульстве. Прытым старанна студыяваў японскую мову, звычаі і абрады народу, рэлігію, мастацтва і літаратуру. Затое пасьля мог зусім аддацца місіянэрскай працы, да якой быў пакліканым Богам.

А праца была нялёгкая! Самі японцы сьведчылі аб ім, што ўсе ягоныя думкі і пачуцьці былі накіраваныя на адно, каб прасьвяціць Японію сьвятлом Хрыстовае навукі. Аднак давялося яму доўга чакаць, пакуль да яго прывыклі дый ацанілі ягоныя паважныя адносіны да японскае культуры. І вось з часам аб ім пачалі гаварыць у-ва ўсей Японіі: ён стаўся пажаданым госьцем на японскіх сабраньнях, а нават паганскія сьвятары пачалі адносіцца да яго з пашанай. Калі-ж зьяўляліся першыя прозэліты з японцаў, яны адразу станавіліся ягонымі памочнікамі. Гэткімі былі: Павал Канабэ, Іван Сакаі, якія пасьля сталі сьвятарамі дый апосталамі сярод сваіх суродзічаў. І яны сталі супрацоўнікамі Мікалая дый упісаліся ў гісторыю Японскае Царквы, як заснавальнікі.

Як толькі зьявіліся сьвятары і катэхісты японцы, дык хрысьціянства хутка пачало пашырацца. Ужо цяпер стала магчыма выдаваць у японскай мове правасл. часапісы: двутыднёвік місіі «Сэйкёо сімпоо» (Праваслаўны бюллетэнь) і пэрыёдыкі «Сэйкёо Эова» (Правасл. гутарка), «Ураніскі» (Скромнасьць) і «Сінкаі» (Духоўнае мора).

Асаблівае значэньне прыдаваў а. Мікалай Божай службе ў японскай мове. Над перакладам Сьвятога Пісьма і літургічных кнігаў ён працаваў усё жыцьцё аж да апошняе хвіліны і асягнуў тое, што аж трудна было паверыць, каб гэта мог зрабіць адзін чалавек за 50 гадоў!

У канцы 1869 г. іераманах Мікалай сабраўся ў першую падарож ў Пецярбург, каб здаць справаздачу Сыноду аб падрыхтоўцы і аб працы і атрымаць помач. Найбольш патрэбная была помач людзьмі, бо ён быў тады адзінадным праваслаўным сьвятаром у Японіі! Але такжа была неабходная помач матар'яльная на арганізаваньне новых парахвіяў, на закупы царкоўнага інвэнтару і кнігаў.

6. IV. 1870 Сынод у Пецярбурзе зацьвердзіў Расейскую Духоўную Місію ў Японіі, а Мікалай быў пастаўлены архімандрытам у ёй. Місія падлягала Камчацкаму япіскапу і на ўтрыманьне яе назначана 6 тысяч бурлёў у год. Вяртаючыся, архім. Мікалай узяў з сабой сьвятара Грыгора Варанцова, кандыдата багаслоўя Казанскае Акадэміі, але гэты хутка захварэў і мусіў вярнуцца ў Расею. Місія была вельмі цяжкая і кандыдатаў бракавала, а толькі ў 1872 прыбыў Анатоль Ціхай, які кончыў Кіеўскую Дух. Акадэмію. Архім. Мікалай пакінуў яго ў Гакодатэ, а сам з трыма катэхістамі поехаў у Токіё, дзе была ўжо аснована і місія — цэнтр усяе працы.

У 1872 г. Мікалай падаў японскаму ўраду просьбу — даць поўную свабоду хрысьціянству! І ў 1873 была зьнятая забарона прапаведываць хрысьціянства, што вельмі карысна адбілася на працы а. Мікалая. А ў 1875 япіскап Камчацкі Павал Папоў высьвяціў першага японца, Паўла Савабэ на сьвятара. А ў 1878, калі Місія лічыла 6 сьвятароў, 27 катэхістаў і 50 іхніх памочнікаў — японцаў, архімандрыт Мікалай зьвярнуўся ў Пецярбург з просьбай — прыслаць япіскапа на старшыню Місіі. Сынод згадзіўся і тэлеграмай пытаўся Мікалая, ці ён сам згадзіўся-б стаць япіскапам? Ён адказаў: «Калі з Расеі немагчыма назначыць япіскапа, я згаджаюся».

І вось у 1880, 30. III. архім. Мікалай быў пасьвячаны ў Пецярбурзе на япіскапа, як вікары Рыжскай епархіі, з тытулам япіскапа Рэвэльскага і назначаны ў Японію галавой Місіі. Мітрапаліт Ізыдор, даючы яму жэзл, сказаў: «Маеш служыць да канца жыцьця справе, за якую ты ўзяўся і не дапусьці, каб хто другі заўладаў тваім вянком!»

На працягу 30 гадоў япіскапу Мікалаю былі суджаны яшчэ большыя дасягненьні. Ён стварыў духоўную сэмінарыю, дзе навука адбывалася толькі па японску. З яе выйшлі дзесяткі сьвятароў японцаў. Такжа школу катэхістаў і жаночыя школы ў Токіё і Кіёто.

*

Вельмі важным здарэньнем было пабудаваньне ў Токіё катэдральнага сабору Хрыстовага Ўскрасеньня. Адзіная вялізарная сьвятыня пабудаваная ў сярэдзіне найбольшага гораду сьвету! Відаць ад усюль і упрыгожвае горад. Заложаныя фундаманты ў 1884, а ў 1891 пасьвячаны. У 1906 Сынод прызнаў япіскапу Мікалаю тытул архіяпіскапа — Японскага, незалежнага ад другіх у Расеі, апрача Сыноду. А ў 1908 паслалі на помач Арх. Мікалаю вікарага япіскапа Сяргея (Ціхамірава) з тытулам «Кіётскі». Гэтая помач была неабходная, бо арх. Мікалай сапраўды быў перапрацаваны і хутка закончыў поўнае заслугаў жыцьцё 3 лютага 1912 г.

Яшчэ ніколі Японія не бачыла такіх урачыстых паховінаў, калі працэсія расцягнулася на 10 кілямэтраў! да магільніка Янака-босі. І ня дзіва, бо архяпіскап Мікалай пакінуў па сабе 1-го япіскапа, 34 сьвятароў, 8 дыяканаў, 115 катахістаў і 34 тысячы правасл. японцаў, духоўную сэмінарыю з соткаю студэнтаў. «Усё гэта было, як пісаў пасьля яп. Сяргей, да апошняе цэглы ў будоўлях і да апошняй літары ў перакладах літургічных кніжак, справай ягонага сьветлага розуму, шырокага сэрца бый цьвёрдае волі; а ўсё гэта зрабіла яго выбраным начыньнем Божае ласкі».

Перакладам Сьвятога Пісьма і літ. Кніжак Архіяп. Мікалай заклаў трывалыя асновы пад развіцьцё Правасл. Царквы ў Японіі, як Царквы нацыянальнай. У гэтым ніхто ўжо яму не дараўнаў!

## II.

Які быў далейшы шлях Японскае Царквы пасьля сьмерці архіяп. Мікалая? На долю ягонага наступніка яп. Сяргея выпала нямала цяжкасьцяў з прычыны падзеяў у Расеі і ў Правасл. Церкве, бяз помачы якой Місія ў Японіі не магла яшчэ абыйсьціся.

У восені 1917 на Сабор у Маскве прыбыў з Японіі сьвятар Сымон Маі: ён перадаў прывітаньне ад Духоўнае Місіі ў Японіі. Сабор у адказ выдаў пасланьне з багаславенствам японскім хрысьціянам.

У 1923 г. у Японіі здарыўся вялізарны землятрус, які асабліва наведаў найбольшыя гарады Токіё і Якогаму. Ён прычыніў вялікія шкоды і страту ў людзях і ў будоўлях дый маемасьці.

На большае няшчасьце самы моцны штуршок падземны, які разламаў у Токіо японскія крохкія дамы і дамкі-клеткі, прыйшоўся перад паўднём, калі японкі варылі на газе абед для мужоў, якія мелі прыйсьці на абед і адпачынак, дык разам з замлятрусам узьніклі тысячы пажараў. А дамкі беднаты пераважна бывалі роблены і склечаныя з фанеры і кардону, дык гарэлі як скрынкі ад запалак! Дый вуліцы ў бяднейшых кварталах вузкія, пляцоў вольных мала . . . Праўда, у такіх дамох радзей бывалі людзі забітыя, але якраз найбольш тады пагінула людзей ў пажарах, ня могучы выскачыць з мора агню. Значная частка народу ратавалася, скачучы ў каналы, але і тут навалілася яшчэ горшая няшчасьце, бо разьліліся вялікія бакі і рэзэрвуары нафты, якая паплыла ў рэкі і каналы — так што тыя ўцекачы мусілі пагінуць. А калі цэлыя натоўпы народу беглі на пляжы і на берагі порту і адкрытага мора, дык адтуль спаткала іх высокая хваля ад падморскага землятрусу.

Калі ўлічыць, што цягнікі ў той момант выходзілі з рэльсаў, аўтабусы і цягнікі скочваліся з насыпаў і з мастоў, дый пазавальваліся тунэлі, гелерыі, віядукі, масты, жалезныя дарогі наземныя і падземныя, паўзрываліся фабрыкі і склады з гарушчымі матар'яламі, магазыны з таварамі . . . Дык вось і спраўдзілаеся перасьцярога, што «чым большая тэхніка, тым страшнейшая катастрофа!». А там яшчэ і чым большая цесната, дый чым большае багацьце, а ў другіх месцах чым **большая** беднасьць, — тым больш жудасны перапалох, пасьпех, роспач і катастрофа! . . .

Шчасьліва было хоць тое, што бліжэйшыя да імпэратарскай рэзыдэнцыі маглі ратавацца на вольныя пляцы, сады і паркі пры царскай сялібе. Праўда, ня сьмелі даходзіць да палацаў, але прынамсі зьбеглі ад пажараў — аж дачакалі успакаеньня ад землятрусу і агню. Характэрна, што імпэратарскія дамы і палацы стратаў ад землятрусу ня мелі і не пацярпеў там ніхто.

*

Землятрус таксама прычыніў вялізарныя страты Правасл. Місіі. Рухнуў купал Уваскрэсенскага сабору і ўсё убранства ў саборы згінула ў пажары. Згарэла пышная бібліятэка, у якой лічылася 30 тыс. кнігаў і часапісаў. Згарэлі два дамы Місіі і згарэлі працы япіскапа Сяргея, над якімі ён трудзіўся 15 гадоў! Згінуў прыгатоўлены да друку рукапіс: «100 гадоў хрысьціянства ў Японіі» 1539—1637. Згінуў увесь наклад — 500 экзэмпляраў — «Матар'ялы да гісторыі Ягораўскага Лусскага пагосту», 15—17 стаг. і блізка ўжо гатовая капітальная праца: «Гісторыя Наўгародзкае вобласьці 15—17 стагодзьдзя».

І ўва ўсім саборы не асталося ані кусочка незгарэўшага дрэва. Згарэлі трох'ярусны іканастас, паркетная падлога і сходы на званіцу, драўляны шпіль: жалезныя каркасы купала разьмяклі ад гарачыні і абваліліся ў нутро сабору. Званы, адзін 1440 кіляграмаў і другі

2880 кіл. дый меншыя растапіліся як воск. І наагул, што не згарэла, тое растапілася і стала нягодным да ўжытку. І так згінула ўсё адзеньне духавенства, мітры і ўсё найлепшае. Згарэла дух. сэмінарыя, жаночая школа і 3 дамы для прыслугі. Дык Уладыка Сяргей сказаў: «Госпад даў, Госпад і ўзяў: страчана ўсё, але асталося адно — вера ў Бога!»

20 кастрычніка адбыўся пасьпешна Сабор Місіі, на якім было пастаноўлена адбудаваць усё! Па загаду Уладыкі пастанавілі прадаць у гор. Мацуяма на востраве Сікоку 294 цубо зямлі за 15 000 ен. Разабралі там сьвятыню, збудаваную ў 1908 г. у памяць памёршых ваенна палонных расейскіх жаўнераў. Вернікаў там ня было і царква пасьля рэвалюцыі 1917 г. не атрымлівала помачы з Расеі дый «стаяла бяз сьпеву». Заладавалі яе на параплаў і перевезьлі да Кобэ, а стуль цягнікам у Токіо на Суругадаі. Там 13 лютага 1924 залажылі фундаманты і ў два месяцы закончылі будаваць храм у чэсьць сьвятога Мікалая. У ёй і адпраўлялі набажэнства, бо сабор ляжаў у руінах.

Найперш рамантавалі дамы Місіі. Уладыка Сяргей пачаў аб'яжджаць усіх праваслаўных у Японіі: даслоўна не абмінуў ні аднага дому! А ў чэрвені 1926 пачалі зьбіраць грошы на адбудову сабору, на што трэ было 240 тысяч енаў, але сабралі толькі 55 тыс. Гэтых грошаў нехапала! Уладыка Сяргей 22 разы рабіў аб'езды са зборкай грошаў — аж 15 сьнежня 1929 г. быў дзень пасьвячаньня Уваскрасенскага сабору, які цяпер стаў называцца «Нікараі-до».

Вялізарны сабор адбудавалі, але іканастас аднаярусны. Іконы маляваў Н. С. Задарожны, харбінец. Над царскімі дзьвярамі мастацка вышыта шоўкам Апошняя Вячэра, (праца спні Е. А. Цуі). На асьвячэньне прыбыў з Харбіну япіскап Нестар (Анісімаў), які сказаў Уладыцы Сяргею: «Вы цьвёрда захоўваеце вернасьць Расеі і высока трымаеце сьцяг роднага праваслаўя ў Японіі): хай Бог заўсёды будзе з Вамі!»

Масква таксама прыслала тэтеграму: «Радуемся разам з Японскаю Царквою. Молімся. Просім аб малітву. Мітрапаліт Сяргей з Сынодам». Мітрапаліт Сяргей (Страгародзкі), Ахоўнік Патрыяршага Пасаду у Маскве, быў у 1890—92, як іераман, і у 1897—99, як архімандрыт, у Японіі памацнікам архіяпіскапа Мікалая. Пасьля напісаў «На Далёкім Усходзе» (знаў японскую мову): гэты былі пісьмы японскага місіянэра.

Хоць афіцыяльныя адносіны Японскай Царквы да Расейскае былі агранічаныя да рэдкай карэспадэнцыі, аднак у Маскве аб ёй не забываліся. У 1920 годзе 1-га мая яп. Японскі Сяргей атрымаў тытул архіяпіскапа, а ў 1930 — мітрапаліта. Але ўжо ад 1827 Японская Царква пачынае дамагацца незалежнасьці ад Масквы. Аднак Маскоўскі Мітрапаліт Сяргей адмаўляўся тым, што аўтаномію мог-бы даць толькі Патрыярх з Сынодам або агульны Сабор.

III

У 1939 япоскі ўрад выдаў закон, што толькі японец мог быць старшынёй рэлігійнае арганізацыі. Мітрапаліт Сяргей быў змушаны пакінуць сваё становішча і пасяліцца ў сваей рэзыдэнцыі за горадам. Аме, хоць і ня лічыўся галавою Японскае Царквы, дык неафіцыяльна кіраваў ёю да сваей сьмерці. Часова кіравецтва выконваў кандыдат багаслоўя Пецярбурскае Акадэміі Арсені Івасава. Пасьля быў выбраны на япіскапа протоіерэй Іван Оно і ў 1941 пастрыжаны ў манахі, прыняўшы імя Мікалай і хутка атрымаў хіратонію ў Харбіне на архірэя. Тады гэты ўжо япіскап Мікалай зьвярнуўся ў Маскву з просьбай зацьвярдзіць яго на месца Мітрапаліта Сяргея, што быў у адстаўцы. І Масква ўжо ня мела іншага выхаду, як згадзіцца на «часовае» намесьніцтва. А ў часе ІІ-ой Сусьветнае вайны гэта вельмі прыдалося.

У 1945 быў выбраны ў Маскве на Патрыярха мітрапаліт Аляксей, які зараз пачаў зьбіраць падзеляныя часткі былой Расейскай Праваслаўнай Царквы. На Сабор быў запрошаны і мітрапаліт Сяргей з Токіо, але ён не паехаў: будучы ў адстаўцы, ён ня мог легальна рэпрэзэнтаваць Японскую Царкву і адмовіўся «дзеля хваробы». З Токіо паслалі ў Маскву сваё прывітаньне Сабору і новаму Патрыярху, незалежна ад мітр. Сяргея. Ён не дачакаўся капітуляцыі Японіі на некалькі дзён і памёр 10 жніўня 1945, пражыўшы ў Японіі 38 гадоў. Перад сьмерцяй Сяргей быў арыштаваны і насаджаны ў турму. На ягоныя паховіны прыбыло ледзь некалькі чалавек, якія аб гэтым даведаліся. Мітрапаліта Сяргея пахавалі побач з архіяпіскапам Мікалаем на магільніку Янака-бочы.

15 жніўня Японія капітулявала і яе занялі амэрыканцы. Імпэратар Японіі адрокся свайго «боскага» походжаньня ад багіні Аматэрасу і астаўся толькі сьвецкім дэмакратычным уладаром. 27. III, 1946 Кансысторыя Японскае Царквы і япіскап Мікалай ОНО прасілі Маскву прыслаць ім свайго прадстаўніка. Патрыярх Аляксей далучыў японскую Царкву да Расейскай і паслаў у Японію двух япіскапаў. Калі яп. Барыс (Вік) і Сяргей (Ларына) прыбылі да граніцы Саветаў з Японіяй, дык амэрыканцы не далі ім візаў... Тады група японскага духавенства на сваім саборы пастанавіла далучыць японскую Царкву да амэры-

канскай праваслаўнай і падпарадкаваць Расейскаму архірэю ў Амэрыцы. З Амэрыкі прыехаў епіскап Веньямін (Басалыга) з Амэрыканскай Мітраполіі і гэтак Японская Царква аддзялілася ад Расейскай на цэлых 25 гадоў!

Аднак частка духавенства і вернікаў ня прызнала новага Мітрапаліта: яны стварылі прыходы верныя Маскоўскаму Патрыярху . . .

I гэтак паўстала вялікае недаразуменьне і нязгода ў Правал. Царкве ў Японіі, што трывала з рознымі зьменамі да 1970 г.: частка падлягала амэрыканскаму мітрапаліту, а частка утварыла маскоўскае «благачыньне». Масква дасылала ад пары да пары сваіх дэлегатаў, якія прыяжджалі як удзельнікі сусьветных кангрэсаў у справах сусьветнага міру ці анты-атамнай камісіі . . .

Пасьля многіх зборак, нарадаў і кангрэсаў 3-га красавіка 1970 была зьнята ў Маскве забарона і адлучэньне з Японскае Царквы і абедзьве часткі — з Амэрыканскае Мітраполіі і з расейскага — «багачыньня» — злучыліся ў адно.

10. III. 1970 ў Маскве была абмеркаваная справа кананізацыі апостала Японіі, архіяпіскапа М І К А Л А Я (Касаткіна) і вырашана прызнаць С Ь В Я Т Ы М гэтага заснавальніка Японскае Царквы — дзеля агульнага прakананьня аб ягонай сьвятасьці і кульце, які вытварыўся навакол ягонай асобы.

I тады было пастаноўлена даць аўтаномію Японскай Царкве. Патрыярх Аляксей уручыў у Маскве Мітрапаліту Уладзімеру Токійському Патрыяршы Т о м о с аб аўтаноміі, узлажыў на яго другую панагію і перадаў яму сьвятое міра, якое для Японскае Царквы мае права сьвянціць толькі Маскоўскі Патрыярх. I прызнаны ў Японіі тры епархіі: Токіо, Кіото і Сэндаі. У Токіо ёсьць агульная духоўная сэмінарыя, а студэнты на вышэйшыя студыі маюць вучыцца ў Ленінградзкай Акадэміі.

Аўтаномная Царква мае незалежную адміністрацыю, але ў справах веры і кананічнага права лучыцца з Маскоўскай Патрыярхіяй. I Патрыярх зацьвярджае Мітрапаліта ў Токіо. Маскоўская Царква-Матка мае ў сваей Дачкі-Царквы ў Токіо сваё «падворыя», дзе прабывае прадстаўнік Патрыярха.

Сьвята — дзень Сьвятога Мікалая, архіяп. Японскага, «Роўна-Апостальскага» — устаноўлена на 16 лютага (3-га па ст. стылю).

*Трапар:* «Сьвятому Равноапостольному Николаю Архіепіскопу Японскому» Глас 4.

> Апостолов единоправне и сопрестольне, служителю Христова верный и богомудрий, цевнице избранная Божественного Духа, сосуде преизливаюшийся любве Христовы, Япоские земли просветителю, святый Николае иерарше равноапостольне, молися живоначальней Тройце о всем твоем стаде и о всем мире!

*

**ЗАЎВАГА РЭДАКЦЫІ:** Мы тут зьмясьцілі даўжэйшы артыкул аб Правасл. Царкве ў Японіі дзеля Паважаных Чытачоў (асабліва праваслаўных) каб:

1) маглі насьледаваць Сьв. Мікалая ў ягоным апостальстве і ў малітве за наварот няверных і атэістаў, а і наагул за грэшнікаў усяго сьвету. А гэта тым мілей, бо Сьв. Мікалай Японскі быў сынам нашай зямлі Беларускай са Смаленшчыны.

2) каб мы, беларусы, пабачылі, як Расейская Царква здабывала і бараніла правы сваей Патрыярхіі ў Японіі, нават са шкодай для Місіі рэлігійнае. Гэта тады-ж добрая навука для нас, як бараніцца ў Праваслаўнай Царкве ад уплываў расейскіх, а ў Каталіцкай ад націску польскага.

## *З царкоўнага жыцьця*

ВАТЫКАН: Праваслаўная дэлегацыя з Румуніі была ў Папы: спачатку наведалі ў Ватыкане Сакрэтарыят Адзінства Хрысьціянаў, а пасьля былі з візытам у Паўла VI-га. Аднак каталікі ўсходняга абраду ў Румуніі вельмі былі засмучаныя гэтым візытам Праваслаўнай Царквы ў Папы. А гэта з тае прычыны, што Румунскі Праваслаўны Патрыярхат супольна з урадам цывільным-камуністычным у 1946 г. зьліквідавалі Каталіцкую Царкву (уніяцкую). I ў выніку ліквідацыі соткі сьвятароў і 6 япіскапаў былі арыштаваныя і ўкіненыя ў турмы; а цэрквы і маемасьць перайшла ў рукі Праваслаўнае Царквы або ўрад забраў сабе. Адным словам там паўтарылася тое самае, што было праведзена ў Галіцыі з Грэка-Каталіцкай Царквою ў 1946 г., крыху раней, чым у Румуніі. А ў Румуніі было да таго паўтара мільёна грэка-каталікоў, якіх прымусілі аставацца без сьвятароў, бяз цэркваў і бяз Божае службы: або мусілі перайсьці ў праваслаўе або ў атэізм!

Пры гэтай аказіі палажэньне Паўла VI-га было страшэнна прыкрае: ён ня мог адмовіць прыняцьця Праваслаўнае Дэлегацыі, бо нельга адпіхаць нават найбольшых праціўнікаў, а з другога боку... вельмі было крыўдна каталі-

ком румунскім, якія не маглі зразумець становішча Ватыкану . . .

*

НЬЮ-ЁРК: Кардынал Суэнэнс з Бэльгіі, будучы ў Амэрыцы, казаў у прамове: — Важная справа — злучыцца хрысьціянам, але важнейшая — захаваць веру ў вобліку атэізму! Дык хрысьціяне павінны ня толькі лучыцца з сабою, але сваім жыцьцём лучыцца з Хрыстом, каб няверучыя бачылі нашае добрае жыцьцё, як сьвядоцтва аб нашай веры.

*

ПАПА ПАВАЛ VI-ы ў вялікоднай прамове да вялізарнага натоўпу падкрэсьліў ролю хрысьціянства ў аднове людзкога жыцьця. Бо часта ставіцца закід, што Царква — кансэрватыўная, адсталая; але Царква ўсьцяж сьвяткуе і апавяшчае Хрыстовае Ускрашэньне, а прытым і нашае ўскрашэньне да вечнага жыцьця і да гэтага Царква нас вядзе! Царква Божаю Моцай і ласкай адраджае, падтрымлівае і памнажае ў чалавеку Божае жыцьцё. А духовае жыцьцё мае ўплыў і на фізычную старану — на працу, здароўе, маемасьць і т. д. Бязупынны ўплыў Божае помачы-ласкі, якая паўлялічвае любоў да Бога і людзей, дае нястомную энэргію да працы для дачаснага дабра. Бачым гэта на прыкладзе сьвятых — такіх вялікіх дзеячоў, як напр. сьв. Вінцэнтага а Паўлё, асабліва на прыкладзе законьніцаў-манашак, якія апякуюцца хворымі і апушчанымі людзьмі.

А тымчасам сьвет нахіляецца да зьнішчэньня жыцьця на нашай плянэце. Атамнае ўзбраеньне, забруджаньне зямлі, вады і паветра, голад, і ўся гэтая пагроза ўсьцяж ўзрастае . . . I прытым забруджаньне маральнае — дэкадэнцыя чалавецтва, сапсаванасьць моладзі, абыякавасьць рэлігійная і поўны атэізм, нават «ваюючы»! А колькі ёсьць людзей, якія ня ведаюць, навошта жывуць і працуюць, або шукаюць толькі прыемнасьці і забавы-гульні дый выгоды? Калі бязбожная навука ня можа паказаць чалавеку мэты ягонага жыцьця, дзеля чаго варта жыць, цярпець і памерці, дык хрысьціянства можа і жадае навучыць людзей чыстай праўды і значэньня чалавека, справядлівасьці і любові, што сваім засягам абыймае і дачаснае і вечнае жыцьцё!

Удзяляючы апостольскага багаславенства «Урбі эт Орбі» — Гораду і ўсяму сьвету, Папа вітаў усіх словамі «Хрыстос Уваскрос!» на 17-ці мовах; а між іншымі, па ўкраінску, па польску, па расейску і па вьетнамску . . . I выразіў пажаданьне, каб ягоныя слова аб Ускрашэньні Хрыста дайшлі і туды, дзе людзі церпяць праслед і прыгнёт рэлігіі. Казаў: «Усіх нас лучыць вера, што Хрыстос Уваскрос і больш не памрэ!»

*

ЛЕТУВА: 17 ТЫСЯЧ ПОДПІСАЎ. Нядаўна каталікі ў Летуве пераслалі да Брэжнёва пратэст, які адрасавалі праз рукі Генэральнага Сакратара З'адзіночаных Нацыяў у Нью Ёрку Др. К. Вальдгэйма. Гэты пратэст супраць праследу рэлігіі падпісалі 17 тысяч вернікаў з некалькіх каталіцкіх парахвіяў у Летуве, не зважаючы на тое, што паліцыя вельмі за гэтым сьлядзіла і карае. Далі вернікі выясьненьне, што таму зьвярнуліся за граніцу, бо пратэсты на рукі самога Брэжнёва аставаліся без адказу. Найбольш вернікі скардзяцца на забарону вучыць дзяцей праўдаў веры, калі тымчасам накідваецца навучаньне ў школах атэізму і выхоўваецца дзяцей і моладзь у духу бязбожным супраць волі бацькоў. I наагул праводзіцца ў Саветах дыскрымінацыя людзей у жыцьці грамадзкім дзеля рэлігіі.

*

## У МАСКВЕ «ПРАЎДА» ГАВОРЫЦЬ НЯПРАЎДУ!

Перад Вялікаднем «Праўда» пісала, каб збрыдзіць праваслаўнаму народу веру ў Хрыста, што Хрыстос не Ўваскрос, бо і ня ўміраў, а нават і ня жыў, а толькі аб Ім існуе легенда. Гэтая «Праўда» апіраецца на гісторыі, якую бязбожнікі выдумваюць. Мы ўжо няраз пісалі, што існуюць помнікі хрысьціянства: Эвангельле, Лісты апосталаў і ўспаміны сьвятых і вучоных з самых даўнейшых часоў. А нават часткі і адрыўкі Сьвятога Пісьма Новага Запавету даходзяць аж да II-га стагодзьдзя пасьля Хрыста, паміма жорсткага праследу з боку жыдоў і рымлянаў дый іншых ворагаў, якія вынішчалі ўсялякія ўспаміны аб Хрысьце і Ягонай навуцы, а такжа аб сьмерці і ўваскрашэньні Яго. I ніякая іншая гістарычная асоба ці здарэньне ня мае падобнага пасьведчаньня, як Асоба Хрыста і здарэньні з ягонага жыцьця. Дык маскоўская «Праўда» гаворыць бязбожную няпраўду!

*

## НЕНАРОДЖАНАЕ ЖЫЦЬЦЁ

Забойства ненароджаных дзяцей штораз узрастае (аборт) асабліва ў багатых краях: ня толькі тады, калі пагражае маці сьмерць пры раджэньні, але і для матар'яльнага вырахаваньня, і для выгоды ў сям'і, для спакою ў хаце дый інш. Гэтая «кантроля» ў прыросьце сям'і, як яе ні называць, усёж ёсьць фактычным забойствам жывога чалавека. Як можна пазволіць на такі праступак, які ёсьць ганебным злачынствам? Бо й нельга забіваць сьпячага, ці няпрытомнага, ці вар'ята, а тымболып дзіцяці, якое заблукалася, сіраты, ці хворага заразнай хваробай ! . . А дзіця, хоць яшчэ не пасьпела нарадзіцца, ужо ёсьць чалавекам, бо мае душу несьмяротную і ня ёсьць уласнасьцяй толькі бацькі-маткі, але належыць да дзяржавы, да грамадзтва, да народу і да ўсей фаміліі, а ня толь-

кі да гэтае кватэры і сям'і! Калі нельга палявацъ на час бярэмяннасьці зьвяроў і на птушак у гнёздах; калі нельга забіваць бярэмяннай жывёлы, бо іхняе патомства знаходзіцца пад апекай права і законаў, дык на якой падставе ўрад польскі завёў «ганебны парадак» забіваць ненароджаных дзяцей? А гэта праводзіцца там тысячамі — аж з чужых краёў наяжджаюць дзецябойцы-маткі ў Польшчу, каб правесьці танны аборт! Таксама пачало гэта праводзіцца ў Англіі і ў іншых нібыта «паступовых» дзяржавах. Дый адносна дактароў і Сёстраў Міласэрдзя мусіць сказаць, што такая «апека над маткамі» — гэта ёсьць ня «мэдыцына» і ня «міласэрдзе», але найгоршага тыпу забойства — дзецябойства! І такія шпіталі трэба назваць бойнямі для людзей, у якіх дактары, ламаючы сваю лекарскую прысягу, як бандыты, нападаюць з нажамі на дзяцей і рэжуць іх пад аховай паліцыі і самога вар'яцкага ўраду. Калі-ж жывём у такіх новых парадках, дзеючы так, як дыктавалі Гітлер і Сталін, дык магчыма, што дачакаем яшчэ часаў, калі такія «фальш-лекары» будуць выразаць у лоне матак дзяцей, а пасьля іхнія памацніцы-сёстры будуць ім смажыць з тых трупікаў катлеты, Божа мой! Ня ведама, што тут горшае — злачынства ці абрыдлівасьць? Бо гэта поўны упадак культуры і цывілізацыі, асабліва ў краях на такім высокім узроўні культуры матар'яльнай і духовай, як Брытанія і Польшча?! Сорам, ганьба, позор, інфамі, іньёмініё, шандэ ! ! ! ... діфамар ...

Каталіцкая Царква бароніць лёдзкое жыцьцё. Павал VI-ы няраз заклікаў да апекі над няшчаснымі маткамі і ў абароне ненароджаных. Творацца пункты-прытулкі для патрабуючых матак, асабліва для зблудзіўшых дзяўчат, каб памагчы ім да нараджэньня і даць апеку маткам і дзецям. У такім пункце ў Ліверпулі ў Англіі была дадзеная помач такім маткам у 100 выпадках.

*

## НОВЫ ЭКУМЭНІЗМ

Рада Пратэстанцкіх Цэркваў на востраве Тасманія ля Аўстраліі за згодай сваіх вернікаў, назначыла аднаго каталіцкага сьвятара для абслугі іхных парахвіянаў. І гэты сьвятар, Павал Кондлі, мае давер у сваіх і ў чужых: ён адпраўляе Літургію для каталікоў, а пасьля кіруе набажэнствам для іншых веравызнаньняў.

*

## ТАМАШ — АПОСТАЛ У ІНДЫІ — ЮБІЛЕЙ 1900 ГАДОЎ

Паводле старой традыцыі сьв. апостал Тамаш прыбыў у Індыю у 72 годзе пасьля Нараджэньня Хрыста і там апавядаў дый хрысьціў. Усяго каталікоў ў Індыі больш 5-ці мільёнаў, найбольш у паўдзённай правінцыі Кераля, дзе хрысьціянства трывае ад самага пачатку. Яны маюць свой абрад і сваё духавенства. Юбілейныя ўрачыстасьці адбываліся ў гор. Мадрас, блізка якога знаходзіцца месца сьмерці і гроб сьв. Тамаша ў г. Міляпорэ. На кангрэс у красавіку г. г. сабралася народу больш, чым было на Эўхарыстычным Кангрэсе ў Бамбэі. Гэта сьветчыць аб вялікай папулярнасьці ап. Тамаша. Папа выслаў свайго прадстаўніка, кардынала Конвэй'а з Ірляндыі. Было прысутных шмат біскупаў, духавенства і вернікаў. Гроб сьв. Тамаша ў вельмі прыгожай катэдральнай царкве.

*

## ЧЫЛІ — САНТІ'ЯГО. МІЖНАРОДНЫ КАНГРЭС ГАНДЛЮ І РАЗЬВІЦЬЦЯ

На гэтым Кангрэсе сабралася 140 прадстаўнікоў ад гэтулькі краёў сьвету. Ішлі нарады, як упарадкаваць сьвет, каб бараніць бедныя краі ад голаду. На сьвеце — няроўнасьць, дык трэба папраўіць адносіны. Напр. у Амэрыцэ работнік зарабляе да 4 даляраў за гадзіну, а ў Заірэ-Конго-Афрыка такі самы работнік зарабляе 4 цэнты за гадз.! І ў Гане гаспадар мог купіць у 1960 трактар за тону какао: цяпер цана на трактары ўзрасла, а на какао ўпала і трэба плаціць пяць тонаў какао! Цэна на волава ўпала на 17 працэнтаў, а на каўчук 21 працэнт. Сярэдня ў багатых краях работнік зарабляе ў год даляраў 2.400, а ў бедных — 180 дал. Ды і то яшчэ: у баг. краях заработак сярэдні павялічваецца, а ў бедных стаіць на месцы або й паніжаецца!

Дык што рабіць? Голад нішчыць цела і раз'ярае душу! Калі не ратаваць сьвету і не раўнаваць даходаў, дык т. наз. «трэці сьвет» — бедны зробіць сусьветную рэвалюцыю, каб адабраць лішку багацьця. Дый й гэта іх не паратуе: зьядуць адабранае і больш у нікога ня будзе адбіраць ...

І нельга сказаць, што багатыя краі не ратуюць бедных: даюць ахвяры, але найбольш пазычаюць — толькі ня грошы, а таварамі і на высокія працэнты. Аж даходзіць да таго, што тыя ня могуць сплаціць самых працэнтаў! Бывае, што палавіна новае пазычкі трэба зараз аддаваць на старыя працэнты ...

*

У ЧЫЛІ каталікі пайшлі на супрацу з левымі і выбраны прэзыдэнт аказаўся камуністым! наз. Аллендэ; але ён выбраны згодна з законамі, дык біскупы пазволілі супрацаваць з новым урадам. Аллендэ праводзіць аграрную рэформу, што якраз адпавядае патрэбам бедноты. Біскупы аднак перасьцярагаюць каталікоў, каб пільнавалі веры, праўды і справядлівасьці і не пазволілі камуністам прасьледаваць рэлігіі і захопліваць вылучную ўладу, адпіхаючы іншыя партыі. Гэтак праўдзецца належны падзел грунтаў, абавязкаў і платы за працу. Цяпер на рэспубліку Чылі прыглядаецца ўвесь сьвет, а найпільней Паўдз. і Срэдняя Амэрыка, каб на-

вучыцца новага парадку і правесьці паўсюдную рэформу ў тэхніцы і на ральлі.

*

ЗАІР-КОНГО ў АФРЫЦЫ. Афрыка хоча захаваць свае абычаі і правесьці поўную «афрыканізацыю». Асабліва за гэта хапілася Конго, вялізная рэспубліка з прэзыдэнтам Язэпам Мабуту. Ён адразу перамяніў назву з КОНГО на ЗАІР і сваё хрысьціянскае імя на СЭЗЭ СЭКО. Тады загадаў каб у Каталіцкай рэлігіі парабіць зьмены спрочныя з нашай верай. Як каталікі не згадзіліся, дык выгнаў з краю свайго чорнага кардынала Кісаса і зачыніў усе духоўныя сэмінарыі. А каталікоў у Заіры вялікі працэнт. Узьнікла нязгода з Ватыканам і пратэсты ўсіх вернікаў. Мабуту ўбачыў, што можа ўзьнікнуць рэвалюцыя і пайшоў на ўступкі: тады ізноў адчыніліся сэмінарыі, а з Ватыканам зроблены тымчасовы дагавор. Біскупы згадзіліся афрыканізаваць набажэнства і наагул увесь касьцельны парадак, не парушаючы праўдаў веры і навучаньня рэлігіі.

*

ВАТЫКАН І ПАПА Ў ЯПОНСКАЙ ТЭЛЕВІЗІІ

Вялікую сэнсацыю ўзбудзіў сярод японцаў фільм аб Ватыкане, які перадавалі ўсе японскія станцыі тэлебачаньня. Фільм наладзілі самыя выдатныя апонскія артысты. У фільме былі нададзены ўрыўкі з важнейшых прамоваў Паўла VI-га — аб супакоі на сьвеце, аб сусьветнай супрацы, каб уладзіць згодну сыстэму жыцьця і разьвіцьцё ўсіх народаў. Уся прэса прысвяціла многа месца фільму, а таксама і ілюстрацыяў, асабліва багаты часапіс «Ісўміюры» з дакладнымі рэпартэрствамі аб Папе.

*

ЛЁНДАН: Выдатны малады чалавек Пётр Грээн, які адзначыўся, як паэт, дзелавы і здольны «бітлэс» — песьняр, гітарыст і кампазытар у групе; а меў бліскучую кар'еру, нават матар'яльна, — неспадзявана пакінуў сваё становішча, астрыгся і адрокся лёгкага фаху бітлэса, а ўзяўся за працу звычайнага чалавека у лёндынскім шпіталі. Грошы, якія плылі яму з найграных і насьпяваных плітак, у суме 80.000 фунтаў, раздаў на дабрадзейныя мэты, а сабе зарабляе нармальнай працай і службай у шпіталі. Гаворыць, што чуецца шчасьлівым, а можа й будзе працаваць у іншым фаху, які будзе адпавядаць ягоным імкненьням.

*

ДЗЕНЬ СРОДКАЎ СУСЬВЕТНАЕ ЛУЧНАСЬЦІ — прэса, радыё, тэлевізія, фільм, кіно, тэатр, перагонкі — конскія, сабачыя і інш. Гэтыя сродкі фармуюць людзкую сьведамасьць, перадаюць весткі, забаўляюць, вучаць і, на вялікі жаль, часта псуюць людзей, асабліва моладзь.

Царква зьвярнула вялікаю ўвагу на гэтыя неабходныя сродкі ўзаемнай камунікацыі між людзьмі, краямі і народамі, каб яны сапраўды служылі людзтву карысна, але ня прычынялі шкоды. Нават назначаюцца спэцыяльныя дні малітвы з той мэтай, каб уладзіць па людзку і па Божаму гэтую камунікацыю між людзьмі. Сёлета гэты дзень быў 14-га мая—траўня. Асабліва справа датычыць дзяцей і моладзі, якія ўжо ня могуць абыйсьціся без тэлевізіі, бяз «коміксаў», бяз фільму, бяз футболу і інш. Каб чалавецтва перамагло так наз. «чысты бізнэс», які зьяўляецца якраз нячыстым сродкам заработку і інтарэсу, што імкнецца да найбольшага гешэфту.

Калі людзі штодня рэгулююць гадзіньнікі, каб ведаць добра час, дык чаму не стараюцца рэгуляваць і падчышчаць фільмы і журналы і тэлевізію, каб ішоў матар'ял цікавы, але ідэальна чысты маральна без распусты, забойстваў, бандытызму ашуканства і ўсялякай подласьці, бо праз гэта фармуюцца характары дзяцей і моладзі — аж растуць людзі нyздатныя да нармальнага жыцьця ў грамадзтве і ня годныя перад Богам да збаўленьня душы. А Сам Хрыстос сказаў: «Калі-бы хто згоршыў аднаго з тых найменшых, дык лепей яму было-б, каб завесіць на шыі млынавы яамень і спусьціць у глыбіну марскую!» Значыць, багата трэ было-б з такім каменем затапіць дзеячоў у тэлевізіі і ў др. сродках.

## З нашае мінуўшчыны

Нядаўна Беларуская Бібліятэка імя Францішка Скарыны ў Лёндане ўзбагацілася вельмі цэннай брашурай, напісанай некім А. І., пад назовам: «Усходняя Беларусь, Статыстычные і гістарычные матэрыялы». Выданіе Народнаго Сэкрэтарства Міжнародовых Справаў. Менск. Друкарня Я. А. Грынблята, 1918. Страніц 13.

Гэтай брашуры, цікавай ня толькі зьместам, але і сваім выдаўцом — Б. Н. Р., ня знойдзеш у ніякім бібліяграфічным ведамым нам паказьніку. Таму ахвярадаўцу, які пражывае ў Злучаных Штатах Амэрыкі, належыцца шчырая падзяка за перахаваньне гэтай кніжыцы і за пераданьне яе ў публічную Беларускую Бібліятэку.

Падаём тут частковы зьмест, стр. 5—7, у якім ёсьць гутарка аб тагачасных беларускіх

культурных сілах. Цікава заўважыць, што аўтар распачынае ад каталіцкіх і праваслаўных сьвятароў.

Тагачасны правапіс і граматыку пакідаем бяз зьменаў.

«Гэтак сталося тое, што у мамэнт выбуху Расейскай Рэвалюцыі у усходняй Беларусі аказаліся сконцэнтрованымі блізка усе беларускіе сілы, апрача параскіданых па розных местах б. Расейскай Імперыі. Але і тые, каго доля закінула у чужыну, не пакідалі працаваць дзеля сваей Бацькаушчыны і сваего народу: беларуская нацыональная работа пачала шпарка развівацца у Пецярбурзі, Маскве, Казані і т. д. Пры гэтым нацыональная сьвядомасьць захапіла усе станы і усе кругі беларускага грамадзянства: ужо у самым пачатку рэвалюцыі мы бачым за нацыональной работай много чынных інтэлігэнцкіх сіл. Перш за усе мы адзначым учасьце у беларускім руху духавенства, — гэтай бязспорна вельмі важнай сілы у Беларусі.

Між каталіцкімі ксендзамі рух гэты падгатауляуся здауна у Пецярбурскай Духоунай Сэмінарыі і Духоунай Акадэміі (для Магілеускай дыэцэзіі), і у рэзультаце у момэнт упадку царызму мы бачым адкрытое арганізованае выступленьне беларускіх ксяндзоу: на зьездзі у Менску заснавауся Саюз Ксяндзоу-Беларусау, налічваючый каля 200 членау, між каторымі трэба адзначыць імены найбольш актыуных, як: кс. Астрамовіч, м. т. кс. Годлеускі (у Менску), кс. Сак, кс. Байко, м. т. Лісоускі, кс. Лапошко (у Магілеві), м. т. Шырокі (у Парафіянаве), кс. Шолкевіч, д-р філезофіі Бобіч (у Друі), кс. Будзька, д-р Абрантовіч, м. т. Цікота, м. т. Хвецько, кс. Жолнеровіч, кс. Версоцкі, кс. Олешкевіч, кс. Борык і інш. Закраталося і праваслаунае духавенство, цэнтрам каторага аказалася Масква: тут папалі блізка усе вывезеные з Гродзеншчыны і Віленшчыны сьвяшчэнікі. На адбыушымся тамака у летку 1917 года зьездзі было каля 800 праваслауных сьвяшчэнікау-беларусау, вынесшых рэзалюціі у беларускім нацыональным духу. Між праваслауным духовенствам выдзеляюцца імены протоерэя Кульчыцкаго (у Менску), сьв. Усакоускаго, прот. Корчынскаго, сьв. Рэпніна і інш. Ячшэ да вайны і рэвалюцыіі між прафэсурай вышейшых і сярэдніх школ звертаюць на сябе увагу: праф. Б. Эпімах-Шыпілло, вядомы беларускі філелег, праф. Е. Карскі, праф. М. Доунар-Запольскі, праф. Завіткевіч, праф. М. Масоніус, І. Краскоускі, Б. Тарашкевіч, Міткевіч, Р. Остроускі (у Слуцку), Довгялло, Сэрбоу і Кахановіч (у Магілеві) і інш. Далей ідуць прэдстаунікі розных вольных прафэсій: юрысты і журналісты: Яз. Варонка, А. Цвікевіч, Е. Хлебцевіч, Яз. Фарботка, юрысты: Л. Заяц, Рэутт, Борк, Андрушкевіч, Г. Богдановіч, Сушынскі, Чаусоу, Кажэмяка і інш., інжынеры: А. Уласоу, В. Іваноускі, Дубейкоускі, К. Душеускі, К. Годыцкі-Цвірко і інш. тэхнікі: Стульба, В. Грыневіч, Еутухоускі, Загорскі, Рудзік і інш., аграномы: А. Смоліч, Турчыновіч, В. Савіч, Марковіч, Черняускі, Г. Гарэцкі і інш., каморнікі: А. Аусянік, М. Гарэцкі, Метла, Міхневіч і інш. афіцэры: генерал Кандратовіч, генерал Алексееускі, генерал Короткевіч, палкоунік Курат, К. Езовітоу, М. Косьцевіч, Е. Ярушевіч, А. Зенюк, Р. Якубеня, І. Красоускі, Золотарэнка і інш., літэратары: Яз. Лесік, А. Прушынскі, А. Левіцкі, В. Голуб, Константын Міцкевіч, Я. Луцэвіч і чыноунікі: П. Крэчэускі, Э. Будзька, Яз. Дыло, А. Бурбіс, Б. Галавач, Грыневіч, Ч. Родзевіч, Л. Родзевіч, В. Сталыгва, Я. Серада, Б. Захарка, Сьвірскі, Сенкевіч і інш., чысленые палітычные і культурные дзеячы: С. Рак-Міхалоускі, І. Васілевіч, д-р Ерэміч, Жывапісцау, Дворчанін, Мароз, і інш., урэшці вялікіе землеуласьнікі, як Раман Скірмунт, Княгіня Магдалена Радзівілл, А. Бонч-Осмолускі і інш.».

# „А ці Божым шляхам?“

(Адказ крытыку)

Бывае ня без карысьці, калі ў паважнай працы забірае голас і наш праціўнік, бо асьвячаецца дзела і ад процілаўкі.

Але Ул. Бягун, крытыкуючы ў «Голасе Радзімы» (№ 14, крас. 1972) наш часапіс, вельмі быў сьціснуты рамкамі сваіх хлебадаўцаў і пісаў (ляяльна для сваіх настаўнікаў) слова Бог з малой літары дый празываў нас служакамі «Скотлянд Ярду», ворагамі беларускага народу, фарызэямі, якія ў злых намерах прыкрываюцца імем Хрыста і інш. Гэта ўсё з ягонага боку зразумела, бо ён мусіць добра помніць асьцярогу Івана Андрэевіча Крылова, у якой жаліўся пакорны сабака: «А если не впопад залаю, то и побои принимаю».

А гэтыя «пабоі» і нам дакладна ведамыя, бо і наш рэдактар якога Бягун успамінае і Тамаш Падзява атрымалі з ласкі савецкіх дабрадзеяў па 25 гадоў лягераў, апрача турмы. Гісторыя даволі цікавая і дасужы Ул. Бягун павінен быў з ёй

пазнаёміцца. А менавіта: усю групу нашых айцоў у дзень сьвятых Калядаў, 25—XII—1948, савецкая ваенная дэлегацыя — пракурор, сьледавацель і тры афіцэры — выкупілі ад кітайскіх камуністаў на граніцы заходняй Манджурыі, зьнялі з іх кітайскія аковы і налажылі свае дый павезьлі ў турму ў гор. Чыта. А там правялі суровае сьледзтва і далі — бяз суду паводле загаду Масквы — па 25 гадоў лягераў... Ім закідвалі японскі і ватыканскі шпіянаж, аднак ім, відаць, на маглі гэтага даказаць, бо закіды былі проста сьмешныя, дык асудзілі ў Маскве завочна!

Уканцы 1950 году іх перавезьлі ў Іркуцкую вобласьць і пераганялі з лягеру ў лягер па цяжкіх работах. У 1954, 8-га верасьня а. Гэрмановіча судзілі ў лягеры № 13, што наз. Віхорэвка, і пракурор загаласіў: «Освободить!» Аднак яшчэ трымалі па лягерах — аж да 27-га красавіка 1955 г. і выдалі ў Польшчу, бо ён меў, жывучы ў Заходняй Беларусі, польскі пашпарт.

З нашае групы — 7-мі чалавек — згінулі ў лягерах архімандрыт Андрэй Цікота і два настаўнікі з нашае школы ў Харбіне. А з 4-х айцоў трапілі ў Польшчу Гэрмановіч і Падзява, адзін у Францыю — а. Шалей і адзін загінуў няведама дзе — Партнягін.

Аб загінуўшых у Савецкім Саюзе — яшчэ два словы: Аб Цікоце мы мелі слых, што памёр у 1952 г. у вельмі цяжкіх абставінах у нейкім лягеры ў групе «Ангар-Лаг». Аб Ф. Абрантовічу нічога пэўнага нельга сказаць. Быў арыштаваны ўканцы 1939 г. ў Польшчы: толькі мы мелі слых, што ён прайшоў вельмі цяжкое сьледзтва і мучэньне; а пасьля пасаджаны ў Маскве і... дальш ужо аніякае весткі!

Можа-бы памог нам спагадлівы Ул. Бягун высьніць і дапытацца аб варунках жыцьця і сьмерці гэтых двух архімандрытаў — Цікоты і Абрантовіча?

А таксама, чаму групу нашых айцоў ня судзілі камуністы-кітайцы, калі іх арыштавалі і калі былі чым перад імі вінаватыя? Дый чаму Саюз іх выкупліваў, а пасьля судзіў завочна і караў без доказаў віны 25 гадамі лягераў? Калі-ж нашыя айцы былі чым вінаватыя, як японскія шпіёны, дык Савецкая ўлада магла іх узяць пад суд у 1945 г. у Харбіне, як Саветы перамаглі японцаў. А то нашыя айцы вялі далей школы пры савецкай акупацыі і пры кітайскай камуне аж да 22 (XII) 1948 г.! І чаму Савецкі Саюз, як дастаў нашых айцоў у свае рукі, дык ня перадаў іх у Польшчу: там была камуна, а яны мелі польскія пашпарты?...

І падобных дзівосных пытаньняў было-бы яшчэ нямала, але іх ня выясніць ніхто, а тымбольш сам Савецкі Саюз! Але няхай Ул. Бягун ня дзівіцца, што нашых выпусьцілі перад тэрмінам, бо пасьля сьмерці Сталіна наагул звальнялі інвалідаў — не з міласэрдзя, але ня здатных да работы. Зрэшта, гэтулькі было зьняволеных па лягерах і турмах (больш 20-ці мільёнаў!) — аж Саюз ня мог ужо іх страваць! А тыран-Сталін зрабіў адзіны добры ўчынак у сваім жыцьці, што нарэшце ў 1953 г. памёр.

Перш звальнялі судом і лекарскай экспэртызай, што кандыдат стаў нязлольны да працы, а пасьля ужо звальнялі і бяз судоў. Аднак а. Гэрмановіч мае прэтэнсію, каб Саюз яму заплаціў за турму і лягер — паводле савецкіх законаў, бо быў судом савецкім-народным апраўданы, а пасьля і звольнены!...

Гэтыя інфармацыі даём Ул. Бягуну, хоць шчыра ня верым у ягоную шчырасьць. Далей адкажам яму на ягоныя закіды — на самыя моцныя.

Наконт «Скотлянд Ярду», ведама, што Бягун гэта сказаў толькі па свойму прынцыпіяльна, бо ўжо-ж такая праграма ў ягоных гаспадароў: хоць ніякіх доказаў яны не маюць і не падаюць, але мусіць іхны кажны пісьменнік нешта «залаять» у гэтым кірунку. Каб зручны Бягун заскочыў калі й да нас у сваім разьбегу па Лёндане, дык мы яму паказалі-б, што плацім роўныя падаткі і не маем аніякіх палёгкаў ў залежнасьці ад уладаў і ангельскае паліцыі — так у жыцьці царкоўным, як і грамадзкім. І айцы, аб якіх ён шырока піша, нават дасюль і мовы ангельскае не навучыліся, дык досыць ім было таго выдуманага «шпіёнства« японскага ці ватыканскага, за якія іх караў Савецкі Саюз...

Што датычыць жыдоў і рабіна Баўмана: праўда, ён у нас быў і памаліўся, хоць мы ў яго яшчэ маліцца не пасьпелі. Але гэта ўжо такая манера ў Каталіцкай Царкве ад часу II Ватыканскага сабору, што з намі моляцца іншаверцы — праваслаўныя, пратэстанты, а нават і жыды! Ці гэта таксама шпіёнства? Аднак ніхто нам закінуць ня можа, што маем спатканьні з якімінебудзь палітычнымі групамі ці адзінкамі — ні ізраільскімі, ні іншымі! Ну, іншая справа — рэлігія! І тут ня толькі Баўм-рабін, але і арабскі біскуп з Лібану адпраўляў у нас поўнае набажэнства — ня так, як Баўм — пару мінутак дый і гэта ўжо ўкалола Бягуна дый ягоных настаўнікаў, якія ўсюды пранюхваюць шпіёнства.

Праўда, мы не паклікалі ў Лёндане арабскага муллы, бо не маем яго так пад рукою, як рабіна, які мае сынагогу колькі дзесяткаў крокаў ад нас. А мы нават і ня ведаем, дзе найбліжэйшы мэчэт арабаў. Аднак з арабамі нашыя айцы маюць сутычнасьць, калі ідзе аб супрацу навуковую нашай бібліятэкі імя Францішка Скарыны з Бібліятэкай Брытанскай і мы маем выдатныя «арабікі», як «Аль-Кітаб» і інш. Дый адзін наш айцец ужо добра па арабску чытае, лепш чым па гэбрайску.

Адносна выгнаных арабаў з Палестыны мы дасюль голасу не забіралі, але ці гэта знак, як выводзіць Бягун, што мы спачуваем Ізраілю?

Ані трошкі мы Ізраіля не баронім! Бо сапраўды Ізраіль зрабіў крыўду тым арабам, калі іх выкінуў у пустыню. І мы гэта гаварылі ў вочы рабіну Баўму. І ў тэтым мы згаджаемся з Бятуном. Але чаму мы не баранілі арабаў у «Божым Шляхам»? Ну, на гэта можна шмат чаго гаварыць. Мы не баранілі і немцаў, якіх Савецкі Саюз выкінуў з Прусаў і з Сілезіі і з земляў аж да ракі Одры і Нісы, падараваўшы гэтыя землі палякам і насадзіўшы туды беларусаў і ўкраінцаў для спальшчэньня...

І мы не баранілі татараў, якіх Саюз выкінуў з Крыму. А цяпер дэлегатаў татарскіх, што прасілі ў Маскве вярнуць народ у Крым, дык Масква іх запрасіла ў турму. А Крым Саюз падараваў Украіне, аднак насадзіў туды расейцаў!... Што-ж? Такая савецкая палітыка на сьвеце!

А палестынскія арабы маюць досыць прыяцеляў: за іх заступаецца ўвесь Савецкі Саюз і 400 мільёнаў магамэтанаў — памагаюць ім дружна, праўда, найбольш вялікім крыкам.

Дык было-б ужо лішнім, нам здаецца, пісаць у «Божым Шляхам» супраць Ізраіля з іх 2-ма з паловай мільёнамі ў абароне няшчасных арабаў, якім не памагаюць іхнія багатыя суродзічы і ўвесь Савецькі багаты Саюз.

Наагул, дзе «паны дзяруцца, там чупрыны ў мужыкоў трашчаць». Так і ў адносінах да пакрыўджаных арабаў, ці вьетнамцаў ці Біяфры, якую буржуазная Нігерыя паканала пры помачы Савецкага Саюзу.

Ведама, што цяперашні сьвет дзеліцца на Захад і Усход, якія ўсьцяж зброяцца і паграseverity жаюць ня толькі наўзаем праціўнікам, але прытым і сабе дый усяму сьвету згубай і сьмерцяй усяго жывога!.. І пагрозы нарастаюць бязупынна — атамная, вадародная, бактэрыялягічная і хімічная; а такжа голад, перанасяленьне, забруджаньне паветра і водаў — паўсюдна — аж да глыбокіх акіянаў!...

Дык вось супраць гэтага мы трывожымся і пратэстуем за ўвесь сьвет, асабліва за дзяцей і моладзь. А найбольш нас абходзіць беларускі народ. І якраз цяпер на нас абураюцца нашыя чытачы, што мы замала і заслаба пратэстуем. І адзін з іх піша нам з Францыі: — Заходнія атамнікі адгражаюцца Маскве: «Нашая моц у атамным аружжы такая, што можам зьнішчыць увесь Савецкі Саюз, але мы перш зьнішчым усходні пояс перад Масквой, каб настрашыць, Маскву дык тады яна запросіць міру!...» Калі палякі даведаліся аб такой пагрозе, дык паднялі гвалт на ўвесь сьвет. Тады Заходнія ваенныя сілы адказалі, што для Польшчы пагрозы няма, бо «ўсподні пояс — гэта ня Польшча, але Беларусь і Літва!» І палякі ўспакоіліся. Значыць, беларусы і літоўцы — гэта «дасьледчыя кролікі-трусы», якіх трэба зьнішчыць, каб настрашыць Маскву! І беларусы маўчаць, бо ў Савецкім Саюзе яны голасу не маюць, а на эміграцыі з імі ніхто ня лічыцца. І нашыя часапісы — «Беларус» у Нью Ёрку і «Божым Шляхам» у Лёндане **маўчаць**! Яны заняты толькі рознымі сьвяткаваньнямі, але ня трывожацца ў абароне народу і краю — БЕЛАРУСІ!

Так пісаў нам чытач з Францыі.

Калі-б нас журыў за гэта наш крытык Ул. Бятун, дык сапраўды мы павінны былі-б прызнацца і сароміцца. А то ён нам глумна нагарадзіў, што мы няўдзячныя Савецкаму Саюзу за ратаваньне ад крывавага фашызму. Было-б гэта сапраўды няўдзячна, каб Саюз пасьля не працягваў фашысцкай работы ў Беларусі. Немцы загубілі нашых сьвятароў Гадлеўскага, Глякоўскага, Рыбалтоўскага, спалілі ў мястэчку Росіца Віцебскай вобласьці Ляшчэвіча і Кашыру разам з усім народам — ад старога да малога, а такжа сотні-тысячы сёлаў і людзей! Усяе шкоды і крыўды, прычыняная немцамі ніхто ня зможа палічыць... Але гітлероўцы-фашысты былі ворагамі і атэістамі.

Калі-ж прыйшлі расейцы-камуністы, як прыяцелі і абаронцы, дык пачалі вывозіць цягнікамі, перад усім нашую інтэлігенцыю, але і звычайных работнікаў і калгасьнікаў — у голадзе і холадзе, марыць па турмах дый расстрэліваць — ці праводзячы сьледзтва ў тыранскіх муках, ці бяз судоў засылаючы ў лягеры — ў Сібір ці на марозьлівы паўночны Урал ці ў пустынны гарачы Казахстан — на самыя цяжкія работы ў нялюдзкіх варунках жыльля і харчаваньня...

І дзе загінулі нашыя слаўныя дзеячы, сьвятары: Адам Станкевіч, Фабіян Абрантовіч, Андрэй Цікота, Віктар Шутовіч? — А Беларускую Граmаду, нашых паслоў, палякі засудзілі за шпіянаж савецкі; а Саюз, выменяўшы іх з Польшчы, загубіў іх, як шпіёнаў польскіх... А колькі загінула, замучаных беларускіх урадоўцаў у Сав. Саюзе, нават камуністаў, пісьменнікаў, паэтаў, прафэсароў і ўсялякага народу ад рук савецкіх «прыяцеляў» і «абаронцаў»!..

А цяпер працягваецца прасьлед беларускае мовы, школаў і тэатру і ўсякага народнага праяву жыцьця, называючы гэта «варожым нацыяналізмам». Беларуская мова выцесьнена з урадаў і з установаў дый зямяняецца «другой роднай мовай». Друкуецца у 10 разоў большых накладах для беларусаў па расейску, чым па беларуску; а нават календара не маглі беларусы дапрасіцца ў сваей мове! А беларускія дзеці вучацца беларускіх вершаў у расейскай мове: такога зьдзеку, кпінаў і пагарды з боку прыяцеляў яшчэ сьвет не бачыў! Дый яшчэ дамагаюцца падзякі...

Дык і рэзвага Ул. Бятуна мусім перасьцярэгчы, што за недастатковыя лаянкі могуць яму пагражаць «пабоі»; бо не падзякуе яму ненасытны гаспадар, які мае ў запасе для вучоных і бойкіх пісьменнікаў асаблівыя дамы для адпачынку — дамы вар'ятаў.

*Юстын Ярцэвіч*

# З беларускага жыцьця

Дня 25 красавіка 1972 г. ў Нью Джэрсі памёр раптоўна а. Віктар ВОЙТЭНКА-ВАСІЛЕЎСКІ, сьвятар Белар. Правасл. Аўтакефальнай Царквы, доктар мэдыцыны, маючы 59 гадоў жыцьця. Быў сынам праваслаўнага сьвятара і ведамым беларускім дзеячом. У часе нямецкай акупацыі др. Войтэнка быў першым бургомістрам у Баранавічах, Старшынёй Белар. Самапомачы, заснавальнікам мэдыцынскай школы ў Баранавічах.

Айцец Віктар выдаваў часапіс Беларускіх Вэтэранаў «ЗМАГАР» у 1970—1972. У ім чытач мог знайсьці патрыятычны верш, сьвятарскае казаньне, лекарскія парады, артыкулы аб белар. стравах і аб . . . беларускім моры! Пакуль прывыкнеш да часапісу, дык ён робіць уражаньне малаважнай трасянкі. Але ніхто не запярэчыць, што яго рэдактар быў здольны і сьмелы барацьбіт за лепшую долю Беларусі. Ён захапляўся і ваеншчынай, магчыма, каб растузаць сыпячага беларуса. Тварыў новыя тэрміны дый нямала рабіў «на выраст», на будучыню, — нястомны шукальнік лепшага й новага. Няхай-жа Добры Бог узнагародзіць яго ў вечнасьці! Памяць айцадоктара Войтанкі трываць будзе доўга ў нашым народзе.

Мы друкуем ягонае казаньне, што было на Сёмуху 1970 г. (з часапісу «Змагар», тыдзень 6-7, 1970 г.).

## КАМУНІКАТ

## АПОСТАЛЬСКАГА ВІЗЫТАТАРА БЕЛАРУСАЎ ДА ЎСІХ СЬВЯТАРОЎ БЕЛАРУСКІХ НА ЧУЖЫНЕ Ў СПРАВЕ III-га АГУЛЬНАГА ЗЬЕЗДУ

Многа ўжо гадоў прайшло ад апошняга Зьезду Беларускіх Каталіцкіх Сьвятароў, які адбыўся ў жніўні 1961 г. ў Кенігштайне. Насьпела нямала важных справаў, якія трэба супольна абсудзіць і вынесьці адпаведныя пастановы, каб нашае душпастырства стала карыснейшым на чужыне. Мы таксама не павінны забывацца аб нашай Бацькаўшчыне.

Таму, парадзіўшыся з Вамі, Дарагія Айцы, і атрымаўшы дазвол Рымскай Кангрэгацыі, маю гонар запрасіць Вас на III-ці Зьезд, які адбудзецца ў Лёндане ў Беларускім Рэлігійным Цэнтры ў днях 2—5 жніўня 1972 г.

Лёндан. 16. V. 1972.

*Апостальскі Візытатар Беларусаў*
*† Чэслаў Сіповіч*

*25-я УГОДКІ ЗБВБ У ЛЕНДАНЕ*

25-я ўгодкі свайго існаваньня й дзейнасьці Згуртаваньне Беларусаў у Вялікай Брытаніі адзначала малітвай, урачыстым сходам і сяброўскай бяседай у нядзелю 16-га красавіка, 1972 г. Зраніцы ў царкве Сьвятых Апосталаў Пятра і Паўла ў Лёндане Яго Дастойнасьць Уладыка Часлаў Сіповіч у саслужэньні Айца Аляксандра Надсона адправіў урачыстую Сьв. Літургію, да якое сыпяваў хор пад кіраўніцтвам Брата Мікалая, а прыслужваў вучань беларускае школы Сьв. Кірыла Тураўскага наймалодшы Міхалюк.

Уладыка Часлаў і айцец Аляксандар дзейныя сябры ЗБВБ, а айцец Аляксандар і адзін із закладчыкаў яго.

На Багаслужбе прысутнічалі апрача сяброў ЗБВБ і беларусаў Англіі й госьці: з Канады Старшыня Рады БНР і заснавальнік ЗБВБ Др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч з жонкай, спадарыняй Др. Раісай Жук-Грышкевіч, ды з Францыі — сп. М. Наўмовіч.

Айцец Язэп Гэрмановіч — паэт, пісьменнік, а передусім сьвятар — простымі славамі свайго казаньня крануў у душах вернікаў гэную, так часта нямую, струну веры, што яна заплакала ў грудзёх радасьцяй і надзеяй.

*Урачысты сход* адбыўся папаўдні ў залі будынку Сьв. Пятра, што знаходзіцца між бібліятэкай Францішка Скарыны й школай Сьв. Кірылы Тураўскага. Год таму назад тут быў сход і банкет на адкрыцьці бібліятэкі й музэю. Толькі, калі летась між прысутнымі пераважалі славутасьці навуковага й палітычнага сьвету іншых нацыянальнасьцяў, сяньня заля й калідор перапоўнены былі беларусамі з Лёндану, ды іншых мясцоў. Атрымоўвалася ўражаньне, што гэта сьвята ня толькі сяброў ЗБВБ, але наагул беларусаў Вялікай Брытаніі. Былі й прадстаўнікі іншанацыянальных арганізацыяў.

Перад самым адкрыцьцём сходу старшыня Галоўнае Управы ЗБВБ, сп. Янка Міхалюк, сустрэў пры ўваходзе ў залю, ды прывітаў Старшыню Рады БНР, адначасна й заснавальніка ЗБВБ, д-ра Вінцэнта Жук-Грышкевіча, а васьмігодняя Сяўковічанка ў беларускім нацыянальным касьцюме уручыла спадарыні Жук-Грышкевіч пышны букет кветак, за што ў ружовую шчочку атрымала шчыры пацалунак.

Сход адкрыў і вёў Старшыня Галоўнае Управы ЗБВБ сп. Я. Міхалюк. Прамаўлялі: Старшыня Рады БНР і заснавальнік ЗБВБ Др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч, Старшыня Згуртаваньня Беларусаў Канады Др. Раіса Жук-Грышкевіч, Старшыня Хаўрусу Беларусаў Францыі сп. Міхась Наўмовіч. Апрача вусных прывітаньняў было каля паўсотні пісьмовых ад розных беларускіх арганізацыяў сьвету, іншанацыянальных арганізацыяў, ды прыватных асобаў.

Абшырнейшы даклад аб ЗБВБ зрабіў Біскуп Часлаў Сіповіч. У прамовах гаварылася аб заснаваньні, дзейнасьці, ролі й значэньні ЗБВБ, ды

краналася праблема яго будучыні — праблема моладзі.

Прыемна сьцьвердзіць факт, што як Біскуп Ч. Сіповіч, гэтак усе іншыя айцы і сьвятары БАПЦ ня толькі зьяўляюцца дзейнымі сябрамі ЗБВБ, а нават часта гуляюць у ім вядучую ролю. Гэткай сытуацыі пазайздросьціць беларускай калёніі ў Англіі не адзін беларускі асяродак сьвету...

Пасьля афіцыйнае часткі, што закончылася Нацыянальным Гімнам, на залі зьявіліся сталы з пачастункам і віном. Гутаркі з сябрамі й знаёмымі з даўніх год і маладосьці ў беларускім лягеры ў Ватэнштэце (Нямеччына) разьліліся ў песьню тужлівую, вясёлую й баявую.

І гэтак на выгнаньні беларусам «дні надходзяць, дні праходзяць, дні лятуць...», а ў іх усё тое самае беларускае сэрца, лятуценьні й імкненьні й тое самаў сяброўства, хоць і разьдзелена кантынэнтамі й часам.

*Удзельнік*

---

# *Пішуць да нас*

ПАЎДЗ. ВЬЕТНАМ

Сакавік 10, 1872.

Дарагі Пав. Айцец Гэрмановіч!

Пішу да Вас з Контуму, Паўдз. Вьетнам. Мая дыяцэзія знайходзіцца пры канцы жалезнае дарогі Го-Чы-Мінг. Навокал джунглі і лясы; мора зелені і горы зьліваюцца разам у далёкім прасторы.

Тэрыторыя ідэальная для партызанаў, ад якіх расцярушаныя вёскі жорстка церпяць. Нашыя людзі называюцца «горцамі». Яны маюць сваю ўласную культуру і цывілізацыю і раўнуючы даволі высокую і маральна чыстую, хоць і жывуць вельмі ізаляванымі.

Яны здаволены з нашае тут прысутнасьці і ў многім чым надзеюцца на нас. Вельмі просяць паказаць ім дарогу да загінуўшых дзяцей. Хворыя і параненыя патрабуюць лекаў і лячэньня, а галодныя хлеба. Так многа клічучых помачы! Але ці-ж зможам на іх кліч адказаць? О, так, мы зможам і будзем ім аказываць помач, калі будуць грошы і пэрсанал.

Раней мы мелі 88 парахвіяў, але 26 з іх дашчэнту разбураныя, зраўнаваныя з зямлёй. Як вернецца супакой, будзем адбудовываць парахвіяльныя цэнтры. І ўжо ў некаторых месцах адбудова іх пачалася.

Будзь ласкаў падаць нам сваю дапаможную руку, прысылаючы дары. Вашая ахвяра будзе ўпісаная ў рэестр маім сакратаром і будзе магчыма іх заўсёды праверыць. Усе ахвяры ў цэласьці плацяцца на маё конта ў Ллейд Банк, Кэмбрыдж. Чэкі або паштовыя пераказы (монэй ордэрс) павінны высылацца на «Контум, Міссіон Фонд», або на маё прозьвішча і павінны быць перакрэсьлены.

Вам, Паважаны Айцец Гэрмановіч, ёсьць нагода ўспамагчы маіх адважных людзей у іх няшчасьці і смутку і практычна паказаць хрысьціянскую любоў да іх. Твая ахвяра можа многа цяпер зрабіць.

Багаславі Цябе, Божа!
Шчыра адданы ў Хрысьце

Павал Л. Зэйтц
Біскуп Контум

(Пераклад рэдакцыі)

АД РЭДАКЦЫІ: Наш рэдактар а. Я. Гэрмановіч быў у 1939 г. ў Сайгоне — Паўдзённы Вьет-Нам; праяжджаў праз джунглі і знае тыя адносіны. А тыя 26 вёсак — гэта каталіцкія вёскі, якія былі зьнішчаныя праз войска й партызанаў з Паўн. Вьет-Наму, што пад уладай камуны, якія усьцяж наступаюць. Толькі-ж біскуп пісаў у сакавіку, а цяпер пэўна зьнішчана далёка больш.

Калі-бы добрыя душы жадалі памагчы тым няшчасным, дык падаю адрас. Але магчыма было-б і прысылаць ахвяры на адрас нашай рэдакцыі, азначыўшы, на што прыслана.

Адрас: Most Rev. Paul L. Seitz,
c/o Kontum Mission Secretariat.
SA, Bridge Street, (2nd Floor),
Cambridge, CB2 IUA.
England.

АЎСТРАЛІЯ

Вельмы Паважаны Айцец Рэдактар!

Як пачуваецеся ўлетку, бо, яно ў вас, здаецца, лета пачалося? Бо ў нас «зімачка лютая»: Дзень і вечар палім у печы, а ўначы трэ' добра накрывацца і таго мала!..

А і Вялікдзень — за плячыма і правялі мы яго лепш, чым у мінулыя гады. Пабылі мы ў царкве на ўсіх багаслужбах вялікодных у грэкаў, якія абыходзяць Вялікдзень па новым стылю, а мы правялі тады ў Пэрт чатыры дні.

Мая жонка паслала вам 10 даляраў праз банк, ці вы іх атрымалі? І ў Пэрт меў я гутарку з др. Бразоўскім, які наракае, што адаслаў падпіску

на «Божым Шляхам», а дасюль не дастаў ані-воднага нумару!

І жадаю вам шмат здароўя і сілы, каб мы змаглі хутчэй пабачыць вашую повесьць «Разумную Анютку».

*К. Ч.*

## ПЭРТ — ЗАХОДНЯЯ АЎСТРАЛІЯ ВЯЛІКІ САКАВІК

Сёлета «Аб'еднаньне Беларусаў» у зах. Аўстраліі сьвяткавала 25 Сакавіка ў гор. Пэрт. І гэта вельмі памысна зйышлося з Вялікаднем, бо дзяржава выкраіла нам 4 дні вольныя ад працы, каб адсьвежыць сябе і даць радасьць дзецям. Ды ня толькі сабраліся бліжэйшыя ля Пэрт, але і з Альбанаў, Дэнэмарк, Нордзам. Прышлося некаторым дарогі больш 300 міль у адзін канец. І хочацца зацеміць, што Зах. Аўстралія бяднейшая беларусамі, чым іншыя часткі кантынэнту, затое вартасьць іх выяўляецца пры кажнай нагодзе. І цяпер сабраліся як бацькі, так і моладзь з далёкіх закуткаў.

У Вялікую Суботу ўжо да палудня пачалася мітусьня каля Бел. Народнага Дому — і аўта і людзі, а з тым і прывітаньні, гутаркі, сьмехі... Бо некаторыя ня бачыліся ўжо некалькі гадоў!

Калі быў у нас уладыка сьв. пам. Сяргей, дык Багаслужба ішла за загінуўшых сыноў, што злажылі свае галовы за Бацькаўшчыну ў духу 25-га Сакавіка. Але як асаталіся мы сіротамі (дзеля браку нашага духавенства), дык адчуваецца нейкая сухасьць у сьвяткаваньні...

А гадзіне 12-ай адчыніў сабраньне сп. Мароз: Белаурскі гімн, мінута маўчаньня і радны др. Бразоўскі прачытаў лекцыю: зьвяно за зьвяном працягнуў слова ланцугом падзеяў ад акту Абвешчаньня Незалежнасьці, 25. III. 1918, пасьля акупацыі расейская, польская, нямецкая дый ізноў расейская аж да сучаснага мамэнту. «Але я веру, казаў ён, што гідра, якая ўшчаміла ў сваей ляпе нашую дарагую Бацькаўшчыну Беларусь, скруціць сваю пражорлівую і ненасытную галаву — яшчэ за нашага жыцьця! На гэта паказваюць міжнародныя доказы. А 25-га Сакавіка будзем сьвяткаваць не ў такіх вузкіх абставінах, як цяпер на чужыне, а з вялізарнай урачыстасьцяй, а з поўнай радасьцяй і ўсенародна на вольнай і незалежнай Бацькаўшчыне Беларусі!»

Буйнай і доўгай авацыяй узнагарадзілі прамоўцу ўсе прысутныя! Праспявалі дзесятак вайсковых песьняў нашай слаўнай паэтэсы Н. Арсеньнявай, што нядаўна сьвяткавала Юбілей 50-ці годзьдзя сваей літаратурнай дзейнасьці. На канцы засыпвалі дружна і ахвоча наш... «Мы выйдзем шчыльнымі радамі!..».

Спадар Мароз і ягоная слаўная Жонка зьвярнуліся да прысутных: «Дарагія Спадарыні-Спадары! Сяньня ў нас супала сямейнае сьвята: нашаму Сыну-Алесю споўнілася 21 год. Паводле тутэйшых абычаяў яму даецца «Ключ дасьпеласьці», якім адмыкаецца шлях да самастойнага жыцьця. А з гэтым і другі факт: Алесь закончыў Коледж з дыплёмам настаўніка. Дык ветліва просім усіх вас, колькі тут бачым, на нашую сямейную ўрачыстасьць!

І ,на вялікае дзіва, ніхто не адмовіўся! Вышла, паводле прыслоўя: «Навалiся, ў каго грошы завяліся!» Дык і ўсім гуртам прывалілі ў Марозаву рэзыдэнцыю!

А сёлетні Вялікдзень выдарыўся цёплым, ціхім, бязьветраным надвор'ем, якога наагул тут восеньню ў гэтым часе ня бывае. А нават усе чатыры дні стаяла гарачыня. А, як ніхто не адмовіўся, дык грамада не змагла ўцісनуцца ў хату! Дасьціпны сп. Мароз пры гарачыні ў да 101 град. Фарангайта, разьвесіў на панадворку рознакаляровыя электр. лямпачкі і ўладзіў там парадную вячэру! Хоць сонца й зайшло, але ўсе абцекаюць буйным гарохавым потам, дык толькі ратуе палажэньне халоднае піва і так — пад водгукі патэфонных кружэтак — пачалася сямейная гутарка! Сталы стагналі пад цяжарам усягоўсялякага!..

Роўна а 12 ўночы матка паднесла свайму сыну-юбіляру прыгатаваны спэцыяльна торт у форме ключа з 21 сьвечкай, якія ён павінен быў згасіць адным подыхам ўсе! Ну, й гэта яму ўдалося, бо мусіць практыкаваў загадзя? І зараз з тым пачалі частаваць гасьцей тым тортам-«ключом», паўмэтравай даўжыні... А халоднае шампанскае страляла ажыўляючы і тэмпэравала разагрэтых гасьцей.

Бацька прачытаў дакумант аб назначэньні Алеся на пасаду настаўніка: пачаліся віншаваньні і прамовы з пажаданьнямі, каб мазольнае бацькава ўзгадаваньне не загінула ў пустынях Аўстраліі, але ўзрастала на найлепшых грунтах і каб магло быць перанесена ў добрым часе на ўраджайны грунт Беларусі!

Так у сяброўскай атмасфэры нейк незаўважна праляцеў час — аж ня было ўжо патрэбнае каляровае штучнае сьвятло, бо яно занікла пры маестаце вялікага натуральнага сонца! Дык, узышоўшы сонца хутка паднялося аж на дзьве качаргі...

Так надыйшла й сумная хвіліна, што трэ было разьвітацца з гасьціннымі гаспадарамі і гось-цям між сабою.

А бацькі напаміналі сынку: «Ах, вазьмі тоегэтае!.. Не забудзь вунь чаго, бо дарога даўгаватая — тысячу міль, дый едзь асьцярожна-ўважліва: у дарозе людзі — ўсялякія дый галовы ў іх затуманеныя. Ну, й калі-ж мы з табой пабачымся?..

Добра, што маем яшчэ сяньня вольны дзень: пасьпеем адпачыць, а заўтра — да працы, якая кажнага чакае. Дык — з Богам!..

*К. Чабатар*

Даражэнькі Брат-Беларус — Сьвятар, Пісьменнік, Паэт — Рэдактар «Божым Шляхам»!

Няхай Добры Бог дазволіць дацягнуць вашае жыцьцё да 100 гадоў — у супакоі, добрым здароўі, без старэчых недамогаў дый у Божай ласцы! Дзякую Вам за тое, што Вы сабралі і перавялі мне чэкам з вечнага гораду Рыму 35 даляраў. І вельмі дзякую тым Братам-Беларусам за добрае сэрца, што памагалі і памагаеце мне старому-хвораму дзеду! Малюся за Вас і наагул за ўсіх суродзічаў; а маліцца тут ніхто не забараняе. Апошні год крыху падлячыў сваё нікудышняе сэрца, хоць мусіць не на доўга? Але дзякую Богу, што яшчэ — на нагах, але на гару карапкаюся цяжка.

Сумныя весткі былі ад Вас: уміраюць ня толькі іншыя, але і нашыя беларусы, як ваш дзядзька Фр. Савіцкі і а. Віталіс Хамёнак. Вечная ім памяць!

Пагода цяпер у Рыё цудоўная: цёпла і суха дый шмат сонца. Але ў Сао-Паўлё — гнілая і халодная: як бываю там, дык хутчэй уцякаю! І бывайце здаровыя ў вашым там непагодным Лёндане! Вы і ўсе вашыя ... Сьцеражы Вас, Божа і Божая Маці дый сьвяты Язэп, наш Патрон!

З пашанай др. *Язэп Пашкевіч*

9. V. 1972.
Нітэрої, эстадо до Ріо. Бразіль.

ЧЫКАГА: ... і так мая спартыўная адысэя скончылася зламаньнем нагі і прынамсі са два тыдні хваробы. Зьбіраўся нешта напісаць, але ніяк ідэі ня прыходзілі ў галаву! А хвароба адабрала ахвоту. І так надыйшоў 25-ты Сакавік. Прыехаў да нас др. Ст. Станкевіч з Нью Ёрку. Дакорваў нам, што нічога ня пішам да «Беларуса», хаця ў Чыкага адбылося нямала цікавых беларускіх імпрэзаў. Ну, некаторыя з іх тут успомню:

Наша беларуская група прыняла ўдзел у «Вэнэцыянскай Ночы». Быў гэта парад яхтаў на возеры Мічыган у жніўні прошлага году (20. VIII. 1971). Ласкавы індустрыялісты пазычыў нам сваю яхту, а мы яе убралі ў адпаведныя колеры, дарнаваўшы да купальскае сцэны. І па цёмнасіняй плыні, як тыя лябёдкі, паволі й паважна пасоўваліся ўздоўж берагу. Надпіс вялікі і ясны




на барту нашай яхты — «БЕЛАРУСЬ» можна было бачыць здалёку. Дзяўчаткі пад гукі музыкі танцавалі народныя танцы. А гэтаму нязвычайнаму відовішчу прыглядаліся з берагу блізка паўмільёну народу, сярод якіх на ўзвышшы знаходзіўся такжа мэр гораду Чыкаго. Калі праяжджала наша яхта, публіка ажыўлена пляскала, гукаючы: «Бьютіфул ... мост бьютіфул» — «Цудоўна ... вельмі цудоўна!».

Ізноў-жа ў кастрычніку (9. X. 1971) сьвяткаваліся тут дзіўныя угодкі пажару гораду Чыкага. Беларуская група выставіла рыдван, які каштаваў 200 даляраў. Грошы сабралі, каб пакрыць выдаткі. І рыдван выглядаў эстэтычна-прыгожа — ажно аб ім гаманілі самыя паважныя «айцы гораду»!

У лістападзе 1971 была зладжана нашая выстаўка. Побач народнага рукадзельля былі такжа іконы намаляваныя сп. Ясюковічам, які скончыў русінска-карпацкую сэмінарыю і ў гэтым годзе прыняў сьвятарства. Заклікалі яго ў Дэтроіт, але пайшоў да расейцаў.

Мы ўжо атрымалі два паасобнікі (перакладу белар. вершаў на анг.): «Like Water, Like Fire». А жадаем дастаць яшчэ пяць.

Ліст Салжэніцына да Маскоўскага Патрыярха — надзвычайны! Дык няхай яго прачытаюць тыя, хто захопліваецца савецкімі парадкамі.

Праваслаўныя беларусы ў Дэтроіт маюць ужо свайго сьвятара, айца Васілюка. Жанаты. Мае 35 гадоў і 4-ра дзяцей. Гаворыць даволі добра па беларуску, але чуецца крыху ўкраінскі навеў.

Жывём у вельмі жахлівым часе, наладаваным магутным патэнцыялам эксплёзыі. І вораг страшны, але больш небасьпечны ўнутраны, чым вонкавы. Моладзь змагаецца з грамадзтвам і супраць усталенага парадку, быццам хаатычнага. Але гэты хаос ёсьць якраз у іх самых, а ня ў іншым месцы.

У апошнім часе мы чыталі ў «Голасе Радзімы» атакі на «Божым Шляхам». Вас і ўсю Марыянскую Грамаду, а таксама і беларускія перадачы ў Ватыканскім радыё вельмі аганьбавалі. Закранула іх да жывога вастрыё праўды, скіраванае ў самы нэўральгічны пункт.

Падабаецца мне апошні нумар «Б. Шл.», асабліва карэспандэнцыя з Францыі. Адважны выступ нашага суродзіча ў абароне нашых рэлігійных апрычоных правоў. Бо і годзе нам маўчаць! Трэба нашым суседзям палякам і асабліва іхным герархам паказаць, як яны выконваюць Хрыстовыя запаветы любові і пашаны бліжняга. Мне здаецца — яны кіруюцца толькі сваім нацыянальным эгаізмам і ўся іхняя рэлігійнасьць — гэта павярхоўнасьць дый пародыя. Варта прадоўжыць сьмелыя выступленьні. Трэба скончыць з ціхім міканьнем ... Няхай праўда вынырне наверх!

Чыкага. 14. V. 1972. *Др. В. Р.*

# Ляхавічы і падзеі ў іх

Праз места Ляхавічы працякае Шчара, якая ўліваецца ў Нёман, а гэты — ў Балтыцкае мора. Калі хто з чытачоў трапіць у Ляхавічы, дык зайдзі, брат, на Замковы завулак і пафатыгуйся на пляц Сянкевіча і пашукай незамярзаючых крыніцаў, а знайдзеш ваду нязвычайна чыстую і прыемную на дзіва!

Ад незапамятных часаў жылі ў Ляхавічах літвіны, што пасьля ўжо называюцца беларусамі і жыды ў крыху меншым ліку дый менш яшчэ магамэтанаў-татараў, якія і выглядам і мовай дый характарам падобныя да беларусаў; а ўсіх разам жыхароў было ўжо да сямі тысячаў.

Наагул Ляхавічы былі местам спакойным: не адзначаліся ні бязбожнікамі, ні зладзеямі, ані разбойнікамі, ні п'яніцамі.

Пра Ляхавічы ўспамінае ведамы грамадзка-палітычны дзеяч Тодар Еўлашэўскі, што нарадзіўся там у 1546 г. І да першае вайны стаяў памятнік Еўлашэўскага на шляху з Ляхавіч да маёнтку Рэйтана Грушаўка, аб якім успамінаў Адам Міцкевіч у сваіх творах. На жаль, гэты памятнік загінуў, калі вайною праводзілі акопы расейскія вайкі. Калісь, за часаў Вялікага Княства Літоўскага, Ляхавічы мелі вароўны, моцны замак і маскоўцы дарэмна намагаліся здабыць яго — ажно падыйшла помач і Масква была з ганьбой адбітая, а Ляхавічы атрымалі назву: «Слаўныя Мяшчане»!

Падчас паўстаньня ў 1863 г. Ляхавічы з ваколіцамі ўтварылі узброены аддзел пад камандаю Чарняка і дружна адбівалі расейскае войска; але ўсё-ж атрымалі паразу і Чарняк ранены трапіў у іхні палон дый сасланы ў Сібір, адкуль вярнуўся ў 1907 г. У Варшаве ён выдаў кніжку, апісваючы змаганьне паўстанцаў дый жыцьцё ў Сібіры.

У трох падзелах Польшчы землі Вялікага Княжства Літоўскага падпалі ў расейскі рэжым і былі падзеленыя на губэрніі. На пачатку Віцебскую і Магілёўскую губ. Масква назвала Беларускімі, а Менскую, Віленскую і Гарадзенскую з Беласточчынай — Літоўскімі. Смаленшчына яшчэ раней была прылучана да Расеі. Аднак гэтыя назвы доўга ня трывалі і Расея перайначыла назву на «Северо-Западный Край» царское імпэрыі. Тады Ляхавічы трапілі ў Менскую губэрнію і ў Слуцкі павет.

Ляхавічане-беларусы былі пераважна каталікі і ня толькі пазбаўленыя назвы «Слаўныя Мяшчане», але атрымалі тытул «крестьяне», значыць, «сяляне», не зважаючы на тое, што паншчыне не падлягалі і царскі акт вызваленьня сялянаў іх не датычыў; а сядзелі на сваіх землях і надзелаў не дасталі. І толькі жыды асталіся мяшчанамі; а татары захавалі шляхоцтва, якое ім калісь надаў Вялікі Князь Літоўскі.

Да паўстаньня 1863 г. быў у Ляхавічах каталіцкі касьцёл, некалькі жыдоўскіх сынагогаў і татарская мячэць. Магчыма была калісьці й праваслаўная царква, ці вуніяцкая, бо невялічкая частка места называлася «Папоўшчына» і асталіся старыя могілкі, запушчаныя, дзе адкопвалі многа людзкіх касьцей. Перад паўстаньнем 1863 г. праваслаўных тут ня было, але пад канец гэтага году касьцёл забралі на праваслаўную царкву, а каталікоў прыдзялілі да парахвіі ў Мядзьведзічах, дык каталікі мелі да касьцёла 10 вёрст! Але ў Мядзьведзічах касьцёл быў стары, драўляны, дык яго на царкву не бралі, але запячатавалі, а каталікоў ляхавіцкае парахвіі далучылі да Дарэва за 12 вёрст ад Ляхавіч, а мядзьведзіцкіх каталікоў — да аддаленага Клецка.

Падчас рэвалюцыі ў 1905 г. ляхавічане рыхтаваліся адабраць царкву і вярнуць на касьцёл: верхаводамі былі — Янка Цярэшка, Якуб Пятроўскі, Лаханскі, Янка Шпак і Янка Бяліцкі з сынам Стафанам. Яны даказвалі, што мы маем права, бо на тысячы ўсіх хрысьціянаў было толькі 27 асобаў праваслаўных і што царква нядзелямі стаяла пустая.

І была ўжо назначаная нядзеля, у якую ніхто з каталікоў не павінен быў пускацца ў касьцёл да Дарава, але ўсе, як толькі адчыніцца царква, зараз ісьці ў царкву і сьпяваць каталіцкія набожныя песьні. А мая, сьв. Пам. матка была назначана, каб пачынала сьпяваць Гадзінкі. Аднак анічога з гэтага пляну ня споўнілася!.. Бо ў суботу пад вечар, перад назначанай нядзеляй, зьявілася ў Ляхавічах рота расейскіх салдатаў з трыма афіцэрамі. Відаць, што нехта аб такім намеры каталікоў данёс уладам, а тыя прыслалі войска! І каталікі пабаяліся займаць царкву...

Што-ж рабіць? Тады каталікі пачалі стараньні аб дазвол пабудаваць касьцёл і незадоўга дазвол атрымалі, але толькі заснаваць свой магільнік, бо дасюль карысталі з магільніку ў Дараве. І акрамя магільніку дазволілі пабудаваць капліцу. Дзякуючы аднак знаёмству абшарніка Язэпа Рэйтана з губэрнатарам і ягонай помачы матар'яльнай, паўстаў хутка ў Ляхавічах прыгожы касьцёл. Але цяпер камуністычная ўлада зачыніла касьцёл і ўладзіла там шпіталь.

Як будавалі касьцёл, пачаўся ў нас і нацыянальны узрух, у якім асабліва прыймалі ўдзел каталіцкія ксяндзы, пераважна маладыя, а такжа майстры і работнікі з Вільні, якія прывозілі газэткі і іншыя друкі ў беларускай мове. З мясцовых асабліва актыўным быў Адам Плаўскі з засьценку Зубялевічы.

Пасьля Рыскага трактату (1921) г.) Ляхавічы былі ўлучаныя да Польшчы, Навагрудзкага ваяводзтва, Баранавіцкага павету. У Ляхавічах паўстаў магістрат і людзі сталі мяшчанамі, аднак ня тымі «слаўнымі», як калісьці, а бадай «ня-

слаўнымі» — у разуменьні польскіх уладаў, бо пашырылася сьведамасьць беларуская і арганізаваўся Гурток Інстытуту Гаспадаркі і Культуры. Каталікі сталі дамагацца, каб дадатковае набажэнства ў касьцеле было ў роднай беларускай мове. Апрача Ляхавіч Гурткі Белар. Гасп. і Культуры паўсталі ў Мядзьведзічах і ў Новай Мышы.

Гурткі адзначаліся актыўнасьцяй: запрашалі з Цэнтралі ў Вільні прадстаўнікоў, якія выступалі з дакладамі на тэмы гістарычныя, нацыянальныя і гаспадарскія. У Ляхавічах меў даклад др. Стан. Грынкевіч, інж. Адольф Клімовіч, сэнатар парляманту Ярэміч і ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі. Асабліва дзейна выступіў Кс. Гадлеўскі ў салі пажарнае аховы запоўненай тысячамі слухачоў розных нацыяў.

Галоўным пашыральнікам беларускае сьведамасьці быў ураджэнец Мядзьведзіцкае парахвіі Кс. Пётр Татарыновіч, цяпер на эміграцыі пралат, доктар і рэдактар часапісу «ЗЬНІЧ», былы кіраўнік беларускае сэкцыі ў Ватыканскім радыё.

Трэба пры гэтым адзначыць, што ў Ляхавічах і ў суседзтве ня было ніякае варожасьці паміж каталікамі і праваслаўнымі дый усе сьвяткі каталікі абходзілі аднachасна з праваслаўнымі паводле Юліянскага календара. Толькі да рэвалюцыі 1905 г. ня бывала жанімстваў мяшаных — каталікоў з праваслаўнымі.

*Я. Ляхавічанін*



### СЯБРАМ НА ВЫГНАНЬНІ

*Браты дарагія, вы, што на выгнаньні*
*З балючым сэрцам гляньце на ўсход,*
*Дзе Маці-Краіна! Там мучаць тыраны*
*І ў цяжкай няволі наш чэзьне народ . . .*

*Вы край і народ свой пакінулі з мэтай,*
*Каб вольнаму сьвету іх зло паказаць,*
*Якое шалее над бацькавай хатай,*
*Аб чым яны самі ня могуць сказаць.*

*Пакінуўшы родных, Радзіму і блізкіх,*
*Вы ўсе на чужыне прытулак знайшлі:*
*Ня збочылі з сьцежак цярністых і сьлізкіх,*
*А шляхамі здрайцаў вы ўсё-ж не пайшлі . . .*

*Вы прыклад ахвяры пакінулі ў працы,*
*Як жыць для Краіны, любіць як народ*
*І з верай, што скончыцца лёс наш выгнаньчы,*
*Што мы пераможна закончым паход!*

*О, шмат вы зрабілі і зробіце болей*
*На шляху так трудным, каб скінуць прымус.*
*Вы крочыце з верай і з моцнаю воляй*
*І з клічам магутным: «Жыве Беларусь!»*

*Янка з Гарадышча*

*а. Я. Г.*

# Сім, Хам і Яфэт

*Калі ў нас хамства завялося?*
*Сказаць два словы будзе досыць:*
*Ад Хама «хамства» пачалося!*
*Хам першы быў сынок сапраўдны*
*У Ноя — родны, паўнапраўны,*
*Што бацьку голага заўважыў*
*Дый абсьмяяў і так зьняважыў . . .*

*Пасьля патопу была справа:*
*НОЙ — бацька ўсіх — меў поўна права —*
*У працы самаўладнай, шпаркай*
*Сваей валодаць гаспадаркай.*

*Такую ўладу ў сьвеце меўшы,*
*Дзяліў ён землі, як хацеўшы:*
*Даў Сіму, Хаму дый Яфэту —*
*На ўсе чатыры канцы сьвету!*

*Зямля — ці годна, ці нягодна —*
*На сьвеце ўсім была свабодна —*
*Лясы і грунты й сенажаці,*
*І горы й моры — ўсе багацьці . . .*

*А Ной сабе адмерыў з вока*
*Ледзь гоняў з сорак, недалёка.*
*Казаў ён жонцы: — Досыць будзе,*
*Дый працаваў дзень круглы пільна.*
*Абгарадзіў усенька шчыльна*
*Дый працаваў дзень круглы пільна.*

*Сад-вінаград разросься міла —*
*Аж кажна ветка гаманіла!*
*Дый ягадкі, калі дасьпелі,*
*Як сьлёзкі ў сонцы прамянелі —*
*Ажно прасіліся ў губу,*
*Ну, праўда, што сабе на згубу . . .*

*

*Быў ранак мілы і пагодны*
*Для працы ў садзе быў дагодны:*
*Пасьля нядоўгай цёмнай ночы*
*Сьвяціла сонца з цэлай моцы.*

*Быў поўдзень доўгі і марудны,*
*Сьпякотны, ў працы вельмі трудны:*
*Гарачыня лілася з сонца,*
*Як з печы вар сплываў бясконца!*

*І быў яшчэ даўжэйшы вечар:*
*З пустыні дзьмуў агністы вецер.*

*Быў ураджай у садзе Ноя —*
*Аж з жонкай цешыліся абое:*
*Сам Ной — здаволены і рад —*
*Зьбіраў багаты вінаград!*

*Пакінуў працу — так спацеў —*
*Ахвоты й сілы больш ня меў. —*
*Дык просіць жонку з тэй бяды:*
*— Нясі хутчэй гаршчок вады —*
*Так зажадалася папіць! —*
*А жонка кажа: — Што- ж рабіць? —*
*Ані туды, ані сюды —*
*Няма ні кропалькі вады!*
*А ёсьць віно — ўсяго багацьця,*
*У нашай гэтай беднай хаце . . . —*
*Ты даў мне ўчора два мяшкі,*
*А першы дужа быў цяжкі! —*

*НОЙ кажа:*
*— Калі так блізка шчасьце ў хаце,*
*Дык я хацеў-бы скаштаваці,*
*Бо надта колер быў прыгожы!*
*А ЖОНКА кажа:*
*— Так-так! Віно — дарунак Божы:*
*Стуль сіла й радасьць прыбывае,*
*Што нават немы засьпявае! . .*

*

*Пачаў віно Ной прабаваць*
*І піць і добра папіваць:*
*Віно гасіла гэтак смагу,*
*Што больш і болей чуў пацягу!*

*Казала ЖОНКА:*
*— А можа й будзе табе досыць? —*
*НОЙ кажа:*
*— Душа дый цела болей просіць . . . —*

*Ной не падумаў нат пра тое,*
*Што ўсё-ж віно, хоць маладое,*
*А мае моц з сваей натуры,*
*Што часам моцнага задурыць:*
*А нат гіганта зваліць з ног!*
*Ной, як сядзеў, так і прылёг:*
*Душа дый цела*
*Так змадзела,*
*Што спаў і хроп — зямля дрыжэла! . . —*
*Аж пара хмараў ўзвыш ляцела! . .*

*Адзежка ўся сплыла наўкола —*
*Ажно сьвяціла цела гола!*

*І трэба-ж скуль сын — Хам прыбіўся —*
*На бацьку глянуў — падзівіўся:*
*— Вось, кажа, хрэн стары напіўся! —*
*І ХАМ крычаў:*
*— Хутчэй,*
*Гэй-гэй!*
*— Сюды бяжыце, гэй, браты, —*
*Вы гляньце! — Бацька наш сьвяты —*
*Вы падзівіцеся — мне стыдна —*

*А Сім — Яфет сказалі — Хам!*
*Вялікі сорам робіш нам,*
*Што свайго бацьку не шануеш —*
*Яго памылку публікуеш . . .*
*А самі ціха, так як можна,*
*Адзежку ўзяўшы, асьцярожна,*
*Як бацька спаў, таго нячуўшы,*
*Накрылі, вочы адвярнуўшы.*

*

*Грэх Хама не ўтаіўся дома —*
*Аж Ною стала ўсё вядома:*
*Нявесткі тайны ня ўтрымалі*
*І матцы ўсё, як ёсьць, сказалі,*
*А матка бегла ўраз да Ноя*
*І там шапталі штось абое . . .*

*Хоць справа нам здаецца марна,*
*А Хаму не прайшла бескарна. —*
*Дый Хам, відаць, не спакарыўся,*
*А мо і горш у пыху ўбіўся?*
*Глыбока сэрца бацькі зраніў —*
*І так душу сваю спаганіў. —*

*Ной — Патрыярх з усей павагай —*
*З уладай, з моцай і з развагай —*
*Даваў сынам багаславенства —*
*З малітвай, з поўным набажэнствам,*
*Как Бог Сам зь неба пацьвярдзіў, —*
*На век-вякоў багаславіў!*

*Ён пачынае, так як трэба:*
*Перш падыймае вочы ў неба,*
*Дый, як сьвятар, ён рукі ўзносіць*
*І ласкі ў Бога шчыра просіць.*

*Сыны падходзяць па чарзе,*
*А бацька, рукі як кладзе,*
*Дык кажа тонам урачыстым:*
*— Маемасьць, землі і ўсёчыста*
*Перадаю я ўсё, што маю,*
*Вам, дзеці, — вас багаслаўляю! —*

*Сын СІМ! Ты будзеш першы ў родзе:*
*Табе найлепша часта сходзе. —*
*Багаславіць хай Бог цябе,*
*Сын Хама служыць хай табе! —*

*— Яфэт, ты сын мой дарагі,*
*Быў трэці, будзеш ты — другім.*
*Шчасьлівы будзеш, так як Сім,*
*А Хама сын — слугой тваім! —*

*— О, Хам! — Сказаў тут бацька з сумам: —*
*Правёў жыцьцё ты дрэнна — з глумам:*
*Праз грэшны сьмех ты долю страціў —*
*Патомства гэтым не збагаціў.*
*Ідзі на сьвет і лепш жыві, —*
*Працуй і Бога не гняві,*
*А Бог хай дасьць табе пажытак, —*
*Дзяцей і хлеб і ўвесь дабытак! —*

*Сын Хама зваўся Ханаан.*
*Як бацька досыць меў заган:*
*Характар бацькі атрымаў —*
*Так хамскі род далей трываў.*

*

*Як Ной памёр, гадкоў меў шмат —*
*Аж дзевяць-сот і пяцьдзесят!*
*Патомкі Ноя разрасьліся —*
*Па белым сьвеце разыйшліся . . .*

*Ад Ноя, Сіма і Яфэта —*
*(Сказаць я шчыра мушу гэта!) —*
*Астаўся прыклад жыцьця з Богам,*
*Яны-бо цнотаў мелі многа.*

*Дый добры прыклад забываўся,*
*А хамскі грэх больш разрастаўся.*
*А ў хамскім родзе*
*І ў народзе —*
*Так у няволі й на свабодзе*
*Паўсюдна хамства панавала —*
*Яго па век не бракавала!*

*Як бедны, просты хто быў хамам,*
*Яно сьцярпець было-бы можна.*
*Але, як хам дый стаўся панам,*
*Або стаў хамам пан вяльможны,*
*Тады зьяўлялася злачынства*
*Або вялізна, важна сьвінства!*

*Так хам сьмяецца, як хто плача,*
*З чужой бяды ці зь няўдачы;*
*Хам фальш свой праўдай называе*
*І ў тон фальшывы ўсьцяж сьпявае;*
*А ў шчасьці ближняга сумуе,*
*Дзе трэба цешыцца, бядуе:*
*Яму сьвет цэлы не ў спадобу, —*
*Так любіць ён сваю асобу! . .*

*А ўжо-ж куды вядзе дарога,*
*Як хамства стане супраць Бога?*

*А фарызэі у блазэнстве*
*Хрыста вучылі ў набажэнстве,*
*Як трэба шабас адпраўляць,*
*Закон Майсея як спаўняць;*
*Але-ж ня слухаў іх Хрыстос,*
*Затое крыж цяжкі панёс!*

*І беларуса звалі «хамам»,*
*Што не хацеў ён стаца панам,*
*Яму казалі: — Маладушны, —*
*Ты будзь пакорны, будзь паслушны:*
*Ты адмяніся унутры*
*Дый нашай мовай гавары!*

*—Не гамані так, проста з мосту,*
*Па беларуску ці па просту:*
*Табе даём, як з маслам кашу,*
*Вучону — панску мову нашу.*
*Маліцца трэба ў будні й сьвятам*
*У нашай мове, «з старшым братам».*

*— Мы беларусу ўсё даём,*
*Каб стаў ён вольным лякаём:*
*Ярмо узложыш дабравольна —*
*Служыць нам будзеш верна й вольна!*

*А беларус ім кажа: — Досыць!*
*Бо да пары збан ваду носіць.*
*— Хачу я жыць у сваім дому*
*І не падданы анікому:*
*А наша мова — Божы дар —*
*Я — незалежны Гаспадар!!!*

Лёндан. 7. IV. 1972.

◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇

## ЯКОЙ НАЦЫІ

У нейкай дэмакрацыі пыталіся ў дзяцей, якой нацыі былі першыя людзі? І бойкі хлапец адказаў: — Ведама, расейцы! —

Настаўнік: — Правільна! Але скуль ты гэта ведаеш? —

А той кажа: — Зусім проста, бо яны былі голыя, дый у іх быў адзін яблык на дваіх; ня мелі страхі над галавою і з той загародкі не маглі выходзіць, а ўсё тое называлі «раем»! — А пасьля два міліцэйскія іх выгналі на цаліну, не даўшы ім ані насеньня, ані прыладаў да працы і загадалі — пад карай сьмерці — ураблаць пустыя землі . . . А ўсё гэта за адзін украдзены яблычак! — На пацеху ім сказалі: «Вы цяпер вольныя і ўсё — вашае . . .».

**К. Ч.**

# Моцныя сказы

(З кніжкі «Крутой маршрут». Зінаіда Гінсбург. Франкфурт. Выд. «Посев». 1967).

«Калыма, Калыма, дальняя планета,
Двенадцать месяцев зіма, остальное — лето».
(З песьні сьмяротнікаў)

«Чаканьне нямінучай бяды — горшае чым са'мая бяда!»

«Дарэмная надзея ўстанаўляць законамернасьць у рабоце вар'ятаў . . .»

«Мамулька, які самы драпежны зьвер?» — «Чалавек!»

«З л о» з вялікай літары, амаль што містычнае, у сваей неабходнасьці, крывіла перада мной сваю морду. (Допыты і зьдзекі на сьледзтве).

«Усю ноч я старалася заплакаць і не магла».

«Як ні цяжкі сягоньняшні дзень, а заўтра трэба чакаць горшага!»

«Кажны вечар трэба дзякаваць свайму лёсу, што сяньня ты яшчэ жывеш . . .»

«Табе сяньня не пашанцавала, дарагая мадам Сьмерць!»

«Ты ізноў паміж сьпіцамі чортавага кола. Яно круціцца і валочыць цябе за сабою насустрач прорвы. Цябе валочаць, як рэчыва, куды спадабаецца гаспадару».

«Ніякага спатканьня мне з роднымі не далі. Я ніколі больш не ўбачыла Аліка (сынка) і мамы».

«Я аніяк не магла ўсьведаміць, што мне не на жарты пагражае расстрэл».

«Жах перад канцом лепшы, чым бясконцы жах у жыцьці!»

Увага: Гэта выказы камуністкі, якая перажыла жах і голад, двухгадовы асабняк, жудасны карцэр, месяц падарожжа на Далёкі Ўсход, падарож морам на поўнач і катаржныя работы, каменны кар'ер і лесапавал на Калыме.

# Прыслоўі і прымаўкі

Усе бабры дабры, толькі адна выдра ліхая.
На бяду то і чорт ня сьпіць.
Балота бяз чорта, а чорт без балота ня будзе.
Ляцела, як хацела, а ўпала, як Бог даў.
Пяць пальцаў на руцэ, а кожны баліць аднака.
Чым чорт не араў, тым сеяць ня будзе.
Адна падзяка, як за рыбу, так за рака.
Часам з квасам, парою з вадою.
Лёстачкамі дух займае, а чорта думае.
Хто любіць папа, а хто пападзьдзю; а я дурачок паповых дачок.
Падняў высока дый нічым не падпёр.
Хто парасё ўкраў, у таго ў вушах пішчыць.
Жывучы ля пекла і чарта з чарціхаю ў кумы папросіш.
Сем лет прала, сем ткала, тры дні шыла, а да абеду знасіла!
Аднаму густа, а другому пуста.
Сем сёл, адзін вол, а дзесяць прыганятых.
Добрая слава дома ляжыць, а ліхая далёка бяжыць.
На сваім сьметніку і певень пан.
Мы самі з вусамі, а той і з бардаой!
Бабы не перагаворыш і сабакі ня перабрэшаш.

# Сучасныя жарты

*Два палітыкі.*

— Цікавасьць, што скажа Мао-Цэ-Дун на тое, што Ніксан едзе ў Маскву?

— Ён ужо сказаў дый толькі адно слова.

— Ну-ну, якое слова?

— Ён сказаў па кітайску: «Чэ-пу-хо!»

— О, Але што гэта значыць?

— Дык-жа гэта чыста расейскае слова: «Чэпуха!»

І тут аны абодвы: «Ха-ха-ха!»

*Дзьве жонкі.*

ВЕСЯЛУХА: — Паслухай, што мой стары сяньня зрабіў! . .

ПАВАЖНАЯ: — Хто такі гэты «стары»?

В.: — Ну, ведама, мой муж! Бо я яго заўсёды так называю.

П.: — Ах, міленькая! Як-жа так можна? Бо ты так скалечыш і яго і сама сябе.

В.: — Як гэта я «скалечу»? Бо я толькі на сьмех так гавару і ён ня злуецца. Бо і нядарма мяне называюць Весялухай . . .

П.: — Калі зможаш, дык паслухай: кажны гаспадар павінен шмат працаваць і галавой і ўсім целам. А калі ты — Весялуха, дык ты павінна весяліць найперш мужа, а пасьля ўжо іншых. Яму павінна быць прыемна прыйсьці да хаты, каб жонка выпытала пра ўсё і памагла — це-

шыцца ці бедаваць. Але, як ты яго ўгосьціш гэтым словам: «стары!» дык ён пойдзе шукаць пацехі ў іншых, а ты астанешся ў дурах... або ў сьлёзах. Дый калі ён чуе тваё: «стары», дык і пачне старэць, кіснуць, трызьціся... А за ім і ты сама!

ВЕСЯЛУХА: — О, ня дай Божа! Але й як яго называць?

ПАВАЖНАЯ: — О, добрая жонка знайдзе ў адну хвіліну тысячу найлепшых слоў. Ці-ж я магу цябе вучыць? Бо ты сама маеш і розуму і сэрца больш, чым другія людзі...

Тут Весялуха пацалавала суседку тройчы дый пасыпяшыла дамоў...

А ці ёй гэта памагло? Згадайце!..

✳

Доктар быў вельмі зьдзіўлены, знайшоўшы на другі дзень свайго пацыента ў горшым стане.

«Ці вы тасаваліся да маіх загадаў?»

«Так, доктар!»

«Ня курылі больш 10-ці папяросаў на добу?»

«Не! Але мне здаецца, што папяросы мне й зашкодзілі, бо я ніколі дасюль ня курыў!»

(Марыюс, Парыж)

✳

«Бедны чалавек! — сказала паважная жанчына да жабрака, даючы яму поў маркі: — разумею, як вам цяжка быць кульгавым. Але падумайце, як шмат большым калецтвам ёсьць, напрыклад, сьлепата».

«Маеце слушнасьць» — адказаў жабрак — «калі я быў сьляпым, дык вельмі часта людзі давалі мне фальшывыя грошы».

(Ворльд Дыгест)

✳

Доктар: — Калі хочаце адвыкнуць курыць, дык тасуйце аўта-сугестыю, паўтараючы сабе: «Я не хачу і ня буду курыць!»

Пацыент: — Гэта ўсё добра, Доктар! Але я сам ведаю найлепш, які я вялікі ілгун...

✳

«Перапрашаю, але ў гэтым тыдні я не магу заплаціць вам за кватэру!»

«Але-ж Вы тое самае сказалі тыдзень і два тыдні таму назад!»

«Так, але ці-ж я не датрымаў слова?»

(Дублін Опініен)

---

ЗЬМЕСТ:



Druck: „Logos“ GmbH, Buchdruckerei u. Verlag, 8 München 19, Bothmerstr. 14